PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (2268) Год XLIV Беласток 31 кастрычніка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Сустрэча з лідэрам Беларускай перспектывы

Аляксандр Вярбіцкі

У аўторак 19 кастрычніка ў Цэнтры грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь у Беластоку адбылася сустрэча лідэра грамадзянскага руху Беларуская перспектыва і адначасна галоўнага рэдактара аднайменнага бюлетэня Валянцінай Трыгубовіч. Грамадзянскі рух Беларуская перспектыва ўзнік у 1995 годзе і быў выкліканы патрэбай рэформы структуры Беларускага народнага фронту. Заснавальнікамі руху былі побач з Вялянцінай Трыгубовіч дзеячы БНФ Валянцін Голубеў, Уладзімір Анцулевіч і Віктар Івашкевіч. Галоўнай мэтай сабе рух паставіў падрыхтоўку будучыні Беларусі на выпадак адхілення ад улады цяперашняга рэжыму. Рух вядзе асветніцкую дзейнасць галоўным чынам сярод моладзі. Ужо ад двух гадоў на беларускай правінцыі працуюць народныя універсітэты; па адным у кожнай вобласці: у Лідзе, Наваполацку, Мазыры, Маладзечне, Пінску і Бабруйску. Кожную суботу і нядзелю выкладчыкі з Мінска чытаюць там лекцыі. Найбольшаю папулярнасцю ў слухачоў карыстаюцца гісторыя Беларусі, гісторыя беларускай культуры, эканоміка і рыначныя рэформы ды паліталогія — як павінна змяняцца грамадства і яго менталітэт, бо шмат сённяшніх праблем, з якімі мае дачыненне Беларусь, звязаны з савецкім менталітэтам. Задача руху — дэсаветызацыя. Рух утрымоўвае цесныя сувязі з Цэнтрам міжнарожных адносін у Варшаве; лепшыя студэнты народных універсітэтаў выязджаюць на два тыдні ў Польшчу, дзе слухаюць лекцыі і знаёмяцца з жыццём у Польшчы. Сёлета дваццаць чалавек пабывала ў Плоньску і параўнанне польскай і беларускай рэчаіснасці шакіравала іх. Тое, з чым яны вярнуліся, будзе іх праграмай працы на бліжэйшыя два гады, а іх аналізы будуць публікаваны ў бюлетэні. Праводзяцца таксама супольныя мерапрыемствы з Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь; нядаўна адбыўся трохдзённы семінар у Гродне.

У Беларусі сітуацыя за апошнія дзесяць гадоў вельмі змянілася. І калі б з тадышнім энтузіязмам беларусаў былі сённяшнія веды — сёння Беларусь выглядала б зусім інакш.

У Беларусі па загаду прэзідэнта Лукашэнкі праводзілася перарэгістрацыя грамадскіх і палітычных арганізацый. Беларускай перспектыве ўлады адмовілі рэгістрацыю, спасылаючыся на... дрэнны адрас установы.

Валянціна Трыгубовіч аднеслася таксама да масавай дэманстрацыі, якая адбылася 17 кастрычніка ў Мінску. Была гэта другая па масавасці імпрэза пасля лютаўскай дэманстрацыі ў 1990 го-

[працяг ☞ 4]



*Юныя ўдзельнікі конкурсу з арганізатарам. Стаяць справа: Анеля Кендысь, Яўген Вапа, Люцына Данілюк, Ірэна Кулік і Ілона Карпюк. Сядзяць: Анна Садоўская, Анэта Галімская і Барбара Трафімюк.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Шукаць свой голас

Міра Лукша

**— Гэта вельмі цікавая паэзія, асабліва маладога пакалення, — сказаў на завяршэнні IV Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы член журы, вядомы паэт Ежы Плютовіч. — Гэта дае надзею, што з гэтага асяроддзя вырастуць нейкія новыя, выдатныя творцы.**

Беларускі саюз у Польшчы і Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" закончылі 16 кастрычніка г.г. літаратурны конкурс „Дэбют '99". Колькасць удзельнікаў, як заўважыў старшыня БС Яўген Вапа, дазваляе сцвердзіць, што некаторыя творцы паспелі ўжо развінуць крылы.

Арганізацыя конкурсу была магчымая дзякуючы Міністэрству культуры і мастацтва, Міністэрству нацыянальнай адукацыі, Фонду імя Стэфана Баторыя і Управе горада Беластока.

— Гэта вялікая радасць сустракацца з году ў год, у штораз markedнай кампаніі, бачыўшы таксама тых, што не ўцяклі пасля першага выдання конкурсу. Сярод іх — маю надзею, што праз некалькі гадоў — прафесар Чыквін будзе лічыць сябрамі „Белавежы", — заўважыў Я. Вапа. — Пераемнасць беларускай літаратуры на Беласточчыне не знікне, а будзе пашырацца і развівацца.

Ганна Сурмач, старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", якая выступіла таксама як чытач, перад уручэннем ганаровых грамат ад ЗБС, вельмі ўзрушана прамовіла:

— Сёння паэтычнае свята. А для мяне сапраўднае свята душы. Я ўчора пазнаёмілася з вашым зборнікам „Вобразы думак". Я чытала вашы шчырыя, прыгожыя, беларускія вершы і апоседы, мне проста не спалася ўсю ноч пасля гэтага. Мы бачым — на Беласточчыне кожнае пакаленне ўзрастае людзьмі, узрастае ў ніву, узыходзіць і шчыра імкнецца душа да беларускасці... Беларускі саюз спрыяе таму, каб ваша слова данесці да людзей.

Якраз за арганізацыю Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, з падзякаю за выдатную арганізацыю і саму ідэю, а таксама ўсяму калектыву „Нівы" за развіванне творчае існасці маладых беларусаў, гуртаванне беларусаў і апісванне іх жыцця старшыня ЗБС уручыла ганаровыя граматы. Звярнула ўвагу таксама на маладых творцаў, якія ўсе гады прымалі ўдзел у конкурсах і вылучаюцца творчай паставай у асяроддзі, уручаючы грамату ад ЗБС **Жанэце Ролі** (у гэтым конкурсе Жанэта заваявала І месца ў сваёй групе).

На конкурс паступіла 41 праца (у мінулым годзе — 36). Рэгламент конкурсу асаблівую ўвагу адводзіў дэбютантам. У конкурсе першы раз прымала ўдзел 13 асоб. Пяцёра пачаткоўцаў было ў І групе (вучні пачатковых школ), сямёра — вучняў сярэдніх школ і адна сярод дарослых. Журы конкурсу (Надзея Артымовіч, Ежы Плютовіч, Сакрат Яновіч і Адам Глёбус) на пасяджэнні 25 чэрвеня г.г. ацанілі прысланыя працы. А сёння ўручаны былі ўзнагароды найлепшым. У першай групе на ІІ месцы апынулася **Анэта Галімская** з Ягаднік, а **Мажэна Жменька** з Бельска-Падляшскага — на ІІІ (абедзве — узнагароджаныя таксама за дэбют). У другой групе (вучні сярэдніх школ) галоўная ўзнагарода за дэбют — **Альжбеце Негярэвіч** з Гайнаўкі. Вылучаны **Юрка Буйнюк** з Малінпік і **Юстына Каралько** з Бельска-Падляшскага. У трэцяй групе (дарослыя) на І месцы **Рэна-**

[працяг ☞ 3]

## Эканоміка рыначнага сацыялізму

Зараз пасля Новага года ў беларускім тэлебачанні пачынаецца падрыхтоўка да веснавой сяўбы. Лукашэнкаўскія журналісты вядуць размовы з усялякімі савецкімі інтэлектуаламі і вертыкальшчыкамі. І хаця невядома аб чым яны гавораць, аднак ход дыскусіі выклікае ўражанне, быццам бы краіна рыхтавалася да нейкай ваеннай акцыі. Бліжэй вясны Лукашэнка штогод склікае нараду гаспадарчага актыву. Падчас прамой трансляцыі тэлегледачы могуць пабачыць як вялікі „вождь" кіруе „бітвай за ўраджай".

[валюнтарызм ☞ 4]

## Трэба ездзіць у Кракаў

Ролю фарпосту Беларусі выпаўняў Беласток. Склалася ўражанне, што ў Кракаве ўспрымаюць нас як вельмі моцную нацыю, якая амаль што кіруе тутэйшым тэлебачаннем, паспяхова псуе нервы засценкавым палітыкам (чулі ўжо там пра гевалт, які ўчыніў пасол Юргель супраць „Часопіса") і стварае сваю медыяльную імперыю — Радыё Рацыя. Варта было праехацца на другі канец Польшчы, каб такое пачуць!

[гордасць ☞ 5]

## З вясковага панадворка

Беларускі фальклор на чаромхаўскім мерапрыемстве прэзентаваў калектыў „Ліцьвіны" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Хрыстовіча. Мінскія артысты з'яўляюцца лаўрэатамі тэлевізійнага Фестывалю „Залатыя ключы". Калектыў паспяхова выступаў з канцэртамі некалькі разоў у Польшчы і Славеніі. У Чаромсе заспяваў ён і нам добра вядомыя песні.

[фольк ☞ 8]

## Краявід з крыжамі

Колькі трэба прайсці і праехаць, каб знайсці і сфатаграфаваць кожны запаўшы ў душу аўтара крыж! Яны стаяць усюды: ускрай дарогі, на ўзгорку, у полі, ля вёскі, за стадоламі, у жыце, сярод бяроз, у валунах, а нават у вадзе, залітыя ў час веснавога разліву.

[альбом ☞ 9]

## Вярнуць належны гонар

У 1940 годзе савецкія салдаты выкінулі косці а. Парфенія і матушкі Юліяніі з грабніцы, якая знаходзілася ў цаглянай капліцы і закапалі за агароджаю. Жыхары вёскі Дубіны расказалі, што часткова разбурана была і капліца. Салдаты скінулі і закапалі побач святара купал, павыносілі іконы, а капліцу перарабілі на склад амуніцыі.

[святатацтва ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Пісьменніцкая сустрэча ў Гродне

15-16 кастрычніка ў Гродне адбываўся міжнародны пісьменніцкі семінар пад назвай „Культура памежжа". У ім прымалі ўдзел літаратары з Мінска, Гродна і Варшавы. Арганізатарамі з беларускага боку былі Саюз пісьменнікаў Беларусі і Гродзенскі аблвыканкам. Гэта прыдало семінару асаблівую пікантнасць, бо адносіны арганізатараў паміж сабой цяжка назваць добрымі. Так у гэтым годзе гродзенскія ўлады звольнілі з працы дырэктара літаратурнага музея імя Максіма Багдановіча, старшыню гродзенскай пісьменніцкай арганізацыі Дануту Бічэль-Загнетаву. Не так даўно Саюз пісьменнікаў быў пазбаўлены свайго памяшкання — былога кабінета знакамітага Аляксея Карпюка ў доме-музеі Элізы Ажэшка. Яно перададзена Саюзу палякаў, а напярэдадні семінару з дому была знята шыльда, на якой паведамлялася, што ў доме Элізы Ажэшка знаходзіцца Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Такім чынам гродзенскім літаратарам нават не было дзе спаткаць гасцей і лёс семінару залежыў ад уладаў. Яны выдзелілі для пісьменніцкай сустрэчы памяшканне ў абласной бібліятэцы імя Карскага. Як прадстаўнік аблвыканкама, у семінары прыняла ўдзел былы галоўны камуністычны, а зараз „вертыкальны" ідэолаг Марыя Бірукова. З Мінска прыехалі Вольга Іпатава, Уладзімір Мархель, Навум Гальпяровіч. Літаратурную Гродзеншчыну на семінары прадстаўлялі Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Пяткевіч, Алесь Чобат, Ігар Жук, Эдуард Мазько. Усе чакалі з Варшавы былога міністра культуры Польшчы Міхала Ягелу, аднак яго не было. Нягледзячы на гэта польская дэлегацыя выглядала прадстаўніча. У Гродна прыехалі беларускі паэт Алесь Барскі, перакладчык Чэслаў Сэнюх, старшыня таварыства „Польшча — Беларусь" Баляслаў Хмялінскі, літаратары Януш Тэрмер, Эўгеніюш Кабатц, Рамуальд Карась і малады паэт Эрык Хабоўскі.

Марыя Бірукова расказала гасцям пра поспехі Гродзеншчыны, пра тое, як добра развіваецца тут беларускамоўнае школьніцтва (здзіўленыя гродзенцы даведаліся, што больш 70% школ Прынямоння беларускамоўныя) і нават сама яна добра ведае мову і некалі гадзінамі размаўляла на ёй з Аляксеем Карпюком. У сваю чаргу Алесь Барскі распавёў пра аддзяленне беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце, і як студэнты пачалі траціць цікавасць да беларускай мовы пасля рэферэндуму 1995 года ў Беларусі. Госці з Мінска ставілі сваёй мэтай наладзіць кантакты, якія ў далейшым далі б магчымасць друкавацца беларускім пісьменнікам у Польшчы. Гродзенцы больш акцэнтавалі ўвагу на польска-беларускія культурныя ўзаемасувязі ў сучаснасці і мінулым.

Напрыканцы семінара адбылося спатканне з сябрамі Саюза пісьменнікаў Гродзеншчыны, якія не былі афіцыйнымі ўдзельнікамі сустрэчы. Для іх, у першую чаргу, гэта была магчымасць пачытаць свае творы, бо як сказаў паэт Рычард Бялячыц са Шчучынскага раёна: „Зараз мы не на памежжы. У Беларусі пісьменніцтва знаходзіцца быццам на эміграцыі. Нам няма магчымасці выказацца ні ў радыё, ні па тэлебачанні". Пасля вершаў гродзенцаў Алесь Барскі выказаў жаданне, каб у наступных польска-беларускіх сустрэчах у Гайнаўцы і Белавежы прынялі ўдзел гродзенцы, бо раней прыязджалі толькі мінчукі. А спадарыня Бірукова пашкадавала, што апошнім часам улады рэдка сустракаюцца з літаратарамі і паабяцала, што літаральна праз тыдзень будзе вырашана пытанне пра пісьменніцкае памяшканне (гродзенскія паэты тактоўна прамаўчалі, але веры словам ідэолага не далі — аўт.).

Скончыўся семінар у лепшых савецкіх традыцыях. Польскіх гасцей павезлі паказаць узорна-паказальны калгас „Прагрэс".

**Зміцер Кісель**

## Жабракоў-мільянераў больш не будзе

Яшчэ не ўсе жыхары Беларусі паспелі ўбачыць апошняе вынаходніцтва Нацыянальнага банка краіны — пяцімільённую купюру, як стала вядома, што хутка з'явяцца зусім іншыя грошы. 20 кастрычніка кіраўніцтва Нацыянальнага банка распаўсюдзіла інфармацыю, згодна з якой з 1 студзеня 2000 года ў абарачэнне будуць выпушчаны новыя разліковыя білеты. Гэта будуць 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1 000 і 5 000 рублёў. Такім чынам у краіне адбудзецца чарговая дэнамінацыя. Усе цэны і заробкі зменшацца ў тысячу разоў. На працягу 2000 года старыя грошы з шматлікімі нулямі будуць прымацца да плацяжоў аднолькава з новымі. Інфармацыя пра кошт тавараў у крамах павінна падавацца як у новых, так і ў старых цэнах. З 2001 па 2003 год застаўшыяся мільёны можна будзе абмяняць у банках.

Безумоўна рашэнне пра дэнамінацыю прыняў не хто іншы як Аляксандр Лукашэнка. 19 кастрычніка ён выдаў свой 613 указ, якім абвясціў замену грошай. Адказваць за выкананне ўказа павінны Савет Міністраў і Нацыянальны банк.

Першую дэнамінацыю Аляксандр Лукашэнка абвясціў адразу пасля свайго прыходу да ўлады. Тады такі крок тлумачыўся, між іншым тым, што трэба выправіць наступствы кіраўніцтва Кебіча, пры якім інфляцыя загнала кошт беларускага рубля да некалькі дзесяткаў тысяч у параўнанні з доларам.

Зараз долар можна набыць ужо за 700 тысяч рублёў. Пасля 1 студзеня гэта будзе ўсяго 700.

**(зк)**

## Ребята, вы заблуждаетесь, скоро тут будет Россия!

Чым хутчэй улады імкнуцца пазбавіць краіну незалежнасці, тым прывольней на беларускай зямлі адчуваюць сябе расійскія фашысты. 8 кастрычніка, у дзень з'яўлення ў друку праекта дамовы пра стварэнне расійска-беларускай саюзнай дзяржавы, па Гродне былі распаўсюджаны ўлёткі арганізацыі расійскіх нацыстаў (Русское национальное единство). У іх паведамлялася, што 10 кастрычніка ў 12 гадзін дня ў цэнтры горада, каля помніка савецкаму генералу Сакалоўскаму збяруцца фашысты, каб распаўсюдзіць сярод гродзенцаў інфармацыю пра РНЕ.

У азначаны час да помніка генералу прыйшло некалькі расійскіх нацыстаў, якія трымалі ў руках улёткі РНЕ. Адзін з іх быў апрануты ў чорную форму, у яго на рукаве красавалася свастыка. Вакол імправізаванага пікету сабралася некалькі дзесяткаў хлопцаў і дзяўчат з Маладога фронту і анархісцкай арганізацыі „Чырвоны Жонд", якія яшчэ вясной гэтага года аб'ядналіся ў Антыфашысцкі цэнтр. Яны вырашылі паглядзець на дзеянні фашыстаў і на рэакцыю на гэта мясцовай улады. Іншых гродзенцаў пікет абсалютна не цікавіў. Таму, каб неяк пазбыцца сваёй „літаратуры", прадстаўнікі РНЕ вымушаны былі раздаваць яе антыфашыстам, якія падыходзілі да пікета і заводзілі правакацыйныя размовы накшталт: „Хлопцы! Я вельмі хачу запісацца ў вашу арганізацыю, але маю адну праблему — па нацыянальнасці яўрэй". Разумеючы, што над імі здзекуюцца, адзін з пікетоўшчыкаў заявіў: „Ребята, вы заблуждаетесь. Подумайте о будущем. Скоро тут будет Россия".

Далейшыя падзеі паказалі, што нададло такой упэўненасці расійскаму нацысту. Да пікета пад'ехала міліцэйская машына. Паразмаўляўшы з фашыстамі некалькі хвілін, ахоўнікі правапарадку атрымалі ад іх па ўлётцы і ад'ехалі. Акцыя РНЕ працягвалася каля гадзіны. Пасля яе заканчэння зноў з'явіліся міліцыянеры і затрымалі... двух антыфашыстаў. У міліцэйскім пастарунку хлопцаў знялі на відэакамеру і параілі сядзець па хатах, а з фашыстамі, маўляў, разбярэцца сама міліцыя.

Тое самае было сказана маладым беларускім патрыётам у красавіку гэтага года, калі пасля пасяджэння антыфашысцкага камітэта міліцыя затрымала яго ўдзельнікаў. Адзін з іх, лідэр рок-гурту „Deviation", Андрэй Пачобут быў на чацвёра сутак пасаджаны за краты.

З таго часу ўлёткі РНЕ, свастыкі, фашыстоўскія надпісы не раз з'яўляліся ў горадзе. Аднак адкрыта паказацца ў Гродне расійскія фашысты да 10 кастрычніка не асмельваліся. Магчыма яны памяталі, як іх білі беларускія хлопцы ў лютым, калі „голеныя галовы" паспрабавалі зрабіць напад на памяшканне БНФ.

Яны набраліся нахабства, калі адчулі як да іх ставяцца ўлады. Бо спыніць „карычневых" не цяжка. Вядома, што яны знаходзяць сваіх прыхільнікаў сярод тых жыхароў былых „ваенных гарадкоў" савецкага войска, якія з'яўляюцца гэтак званым крымінальным элементам.

Нягледзячы на тое, што патуранне фашыстам з боку улад можа прывесці да адкрытых сутычак паміж беларускай моладдзю і расійскімі шавіністамі (вопыт паказвае на чыім баку будзе міліцыя і суды) шэраг прадстаўнікоў грамадскіх і палітычных арганізацый Гродна напісалі адкрыты ліст да кіраўніка горада. Аўтары ліста патрабуюць адказаць, чаму фашыстоўскі пікет адбываўся там, дзе гарвыканкам афіцыйна забараніў усе недзяржаўныя мерапрыемствы і за парушэнне гэтага загаду апазіцыяй міліцыя рэагуе жорстка і імгненна. Ад уладаў чакаецца таксама адказ, чаму заўважыўшы герб „Пагоня" на рукавах маладых беларускіх патрыётаў амапаўцы кідаюцца ў бойку, а свастыка ў іх не выклікае ніякай рэакцыі.

**Зміцер Кісель**

## Свята ў гонар змагароў за незалежнасць

24 кастрычніка ў мястэчку Свіслач і на месцы былой сядзібы сям'і Каліноўскіх у Якушоўцы адбыліся ўрачыстасці прысвечаныя памяці братоў Віктара і Кастуся Каліноўскіх і ўсіх паўстанцаў 1863 года. Імпрэза ладзіцца ўжо трэці год і ўсё больш набывае агульнабеларускі характар.

Усё пачалося з таго, што некалькі энтузіястаў, у тым ліку свіслачанін Віктар Трашчановіч, гродзенскі каваль Юрась Мацко і скульптар Уладзімір Панцялееў у 1997 годзе аднавілі магілу Віктара Каліноўскага на свіслацкіх могілках. На асвячэнне адрамантаванага крыжа прыехала група моладзі з Гродна, Ліды і Мінска. На наступны год Гродзенская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады наладзіла ў Якушоўцы бардаўскі канцэрт. Пасля грамадоўцы выступілі з ініцыятывай зрабіць мерапрыемства традыцыйным і агульнакраёвым.

Сёлета свіслацкія майстры і Юрась Мацко зрабілі шасціметровы крыж, які напярэдадні ўрачыстасцяў быў устаноўлены ў Якушоўцы побач з падмуркам сядзібы Каліноўскіх. 24 кастрычніка да крыжа прыехала каля 200 чалавек з Гродна, Мінска, Слоніма, Свіслачы, Ліды, Мастоў. Да гэтага яны пабывалі на магіле Віктара Каліноўскага, дзе паэтка Данута Бічэль-Загнетава прачытала некалькі сваіх вершаў і з кароткай прамовай выступіў Уладзімір Арлоў. Пасля супольнай малітвы на могілках, былі ўскладзены кветкі да помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту. Аднак галоўныя падзеі адбыліся ў Якушоўцы. Каля крыжа прайшоў урачысты мітынг. З прамовамі да моладзі звярнуліся кіраўнікі БНФ Лявон Баршчэўскі і Алесь Чахольскі. Адметна, што ўдзел ў імпрэзе прымалі прадстаўнікі абедзвюх нядаўна ўтварыўшыхся плыняў у Народным фронце і маглі паміж сабой паразмаўляць. Пасля адбылося кароткае абмеркаванне планаў аб'яднаць Беларусь з Расіяй. Гэта скончылася тым, што Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч спалілі праект расійска-беларускай дамовы. На мітынгу прагучала думка, што праект павінен паліцца па ўсёй Беларусі і тады „інтэгратары" не змогуць сцвярджаць, быццам беларусы самі адмаўляюцца ад незалежнасці сваёй краіны.

Пасля мітынгу імпрэза працягнулася на ўскрайку Белавежскай пушчы, дзе каля вогнішча адбыўся канцэрт бардаў. Свае новыя і ўжо стаўшыя шлягерамі песні прадставілі слухачам Зміцер Сідаровіч, Андрэй Мельнікаў, Віктар Шалкевіч і Кася Камоцкая. **(зк)**

# Шукаць свой голас

[1 ☞ працяг]

**та Більмін** з Беластока, на II — **Івона Марціновіч** з Беластока, вылучаны — **Анеля Місяюк** з Галадоў і **Зінаіда Лукша-Кавалевіч** з Беластока. Агульнай узнагародай для ўсіх удзельнікаў былу ужо выдадзены калектыўны зборнічак „Вобразы думак" і сувеніры. У зборніку змешчаны ўсе працы ўзнагароджаных аўтараў і лепшыя творы іншых удзельнікаў конкурсу, а таксама былі ім уручаны навейшыя кнігі — выданне Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" — Надзеі Артымовіч „Адплывае спакойнае неба" і кніга „Вяртанне да сваіх", складзеная Сяргеем Чыгрыным, выдадзеная Беларускім саюзам. Зборнік твораў Станіслава Грынкевіча, Францыка Грышкевіча і Уладыслава Казлоўшчыка, які складальнік назваў літаратурнай сенсацыяй, быў прэзентаваны ім на сустрэчы.

Сваю сімвалічную ўзнагароду ўстанавіў для найцікавейшых, падаючых літаратурныя надзеі, маладых творцаў Ян Чыквін. Гэта, паводле прафесара, Анэта Галімская, Жанэта Роля і Юрка Буйнюк. Вядомы паэт, які прысутнічаў на такой сустрэчы першы раз, сказаў:

— Я па сутнасці прыйшоў сюды, каб самому павучыцца. І думаю, што не памыліўся. Бо старэйшае пакаленне заўсёды прайгрывае. Новае слова — гэта цудоўна. Гэта значыць, што адкрываецца новая старонка ў беларускім пісьменстве. Толькі людзі, якія хочуць быць творчымі асобамі, рэалізаваць сваю творчую патэнцыю, якая зараз у вас маецца ў форме зярнятка, а хочацца, каб яна была вялікай кветкай, магутнаю сілаю. Трэба шмат над сабою папрацаваць. Не трэба надзеяцца толькі на закладзены ў нас біялагічны інстынкт да творчасці. У кожным чалавеку ёсць гэты інстынкт будаваць, ствараць. Але на гэта замала надзеяцца. Трэба старацца ствараць тое, што называецца сваім варштатам. Вучыцца, ведаць. Шмат трэба працаваць у галіне прафесіяналізацыі. Я жадаю, каб усе прысутныя паставілі сабе за мэту не затрымацца на ўзроўні нейкай творчай інтуіцыі. Калі я хачу быць творчаю асобай і нешта значыць, то буду безупынна сябе самаадукаваць. Не разлічваць на тое, што хтось дасць гатовы рэцэпт, як ствараць. Гэту дарогу вы самі мусіце знайсці. Трэба шукаць сваё месца, свой голас, свой почырк. Сёння маем дзень свята. Але пасля свята — шэсць дзён рабочых. І трэба закасваць рукавы і пачаць працу над сабой!

**Міра Лукша**



*Розныя пакаленні паклоннікаў беларускага слова (Ніна Пацэвіч, яе ўнук Марк Рубашэўскі, Анеля Місяюк і Юрка Буйнюк).* Фота Міры ЛУКШЫ



*У завяршаючай конкурс сустрэчы прымалі ўдзел бацькі і дзеці.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Жаданне пісаць па-беларуску

**З Альжбетай НЕГЯРЭВІЧ, лаўрэаткай IV Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, гутарыць Ганна КАНДРАЦЮК.**

***— Ці верыш у натхненне?***

— Не.

***— А ў паэзію?***

— Не ведаю.

***— Скажы нешта пра сябе. Тваё прозвішча ўпершыню выступае сярод удзельнікаў беларускага конкурсу.***

— Сапраўды — гэта так. Што магу сказаць пра сябе? Зараз я студэнтка першага курса паланістыкі ў Познані. Раней вучылася ў Гайнаўскім беларускім ліцэі.

***— Адкуль твае карані?***

— Сама я родам з Ліпінаў, што ля Гайнаўкі.

***— І з Белавежскай пушчы, багатай на таленты?***

— Так, так.

***— У мяне ўражанне, што раней ты пісала вершы на польскай мове?***

— Сапраўды, пісала і пішу. Зараз у мяне ўзнікла жаданне пісаць таксама па-беларуску.

***— Ці гэтае жаданне звязана з сёньняшняй перамогай?***

— Думаю, што так. Хаця ў мяне вельмі глыбокая свядомасць беларускіх каранёў. Мой бацька таксама выпускнік беларускага ліцэя.

***— Раскажы, у якой атмасферы даспявала тваё рашэнне, каб прыступіць да беларускага конкурсу?***

— Найперш намовіла мяне сяброўка. Вялікая заслуга тут майго настаўніка беларускай мовы прафесара Янкі Карчэўскага. Ён дапамог мне ў падборцы вершаў ды заахвоціў прыняць удзел у конкурсе. Я шчыра яму ўдзячная за дапамогу.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***— Твае любімыя аўтары?***

— У паэзіі — Надзея Артымовіч. А ў прозе? Апошнім часам чытаю дзённікі Сакрата Яновіча. І яны мне вельмі падабаюцца.

***— Ці не баішся, што ў Познані патраціш кантакт з беларускім літаратурным рухам?***

— Наадварот. Далёка ад бацькаўшчыны мацней задумоўваемся пра сваю тоеснасць. Я, будучы цяпер два тыдні ў Познані, мела з сабой перапісаны адзін верш Надзеі Артымовіч. Я кожны дзень чытала гэты верш. Была ў мяне, проста, такая патрэба.

***— Тады да сустрэчы на чарговым літаратурным мерапрыемстве.***

# Інаўгурацыя на Кафедры праваслаўнай тэалогіі

11 кастрычніка 1999 года адбылася ўрачыстая інаўгурацыя навучальнага года 1999/2000 на Кафедры праваслаўнай тэалогіі Універсітэта ў Беластоку, у якой прынялі ўдзел святары і настаўнікі закону Божага Праваслаўнай царквы.

На ўрачыстасці прысутнічаў мітрапаліт Сава, прафесар доктар габілітаваны — кіраўнік гэтай кафедры, епіскап Беластоцка-Гданьскі Іакаў і выкладчыкі.

Мітрапаліт Сава адслужыў малебен. Ён прывітаў сабраных і гаварыў пра заданні і мэты Кафедры праваслаўнай тэалогіі і яе слухачоў. Заахвочваў да адналення і паглыблення ведаў пра праваслаўе, да актыўнага штудзіравання.

Сённяшнія ўмовы, у якіх дзейнічае Праваслаўная царква, вымагаюць сістэматычнага паглыблення не толькі тэалагічных ведаў, але і ў галіне грамадска-палітычнага жыцця, а таксама педагагічна-псіхалагічных ведаў. Святары і настаўнікі павінны ўзбуджаць эмацыянальныя сувязі з праваслаўнай верай. Дзеля гэтага неабходна пазнаваць псіхіку чалавека на розных этапах яго жыцця.

Як вядома, Кафедра праваслаўнай тэалогіі ва Універсітэце ў Беластоку была створана толькі ў гэтым годзе. Яшчэ тут шмат работы. У бягучым навучальным годзе не было набору на стацыянарнае аддзяленне. Будуць толькі курсы ўдасканальвання для святароў і настаўнікаў рэлігіі.

У зімовым семестры ў кожны панядзелак будуць весціся лекцыі па тэалогіі, біблістыцы, гісторыі Царквы, а таксама душпастырстве; у летнім семестры — па педагогіцы і катэхізме.

Заняткі будуць адбывацца ў Беластоку ў Цэнтры праваслаўнай культуры па вуліцы Святога Мікалая 5.

**Ада Чачуга**

# Беларуская школьная справа

15 кастрычніка г.г. у Пачатковай школе н-р 1 у Гайнаўцы адбылася прадметна-метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы з удзелам членаў Камісіі асветы Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Вяла яе метадыст па навучанні беларускай мовы Тамара Русачык.

Падчас сустрэчы была супольна абмеркавана сітуацыя ў беларускай школьнай справе. Зараз беларускую мову вывучае 3 616 школьнікаў: у 31 шасцігадовай пачатковай школе 2 243, у 12 гімназіях — 332 ды ў 2 агульнаадукацыйных ліцэях — 1 041 асоба. Роднай мове навучае 65 настаўнікаў. Варта адзначыць, што з кожным годам беларускую мову вывучае ўсё менш ды менш дзяцей, між іншым, і з-за ліквідацыі некаторых вясковых пачатковых школ. Апошнім часам спынілі дзейнасць школы ў Дашах (Кляшчэлеўская гміна) ды ў Крыўцы і Трасцянцы (Нараўская гміна). Усё яшчэ няма падручнікаў да навучання беларускай мовы ў V і VI класах пачатковай школы. Іх выдавецкі цыкл зацягваецца другі год. Добра, што паспяхова падрыхтаваны праграмныя асновы.

З нагоды сёлетняга Дня нацыянальнай адукацыі ў час канферэнцыі старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі ўручыў настаўнікам віншавальныя граматы падляшскай Куратарыі асветы і ГП БГКТ. Усе ўдзельнікі атрымалі рэгламенты конкурсаў для вучняў школ з прадметам беларускай мовы ў новым 1999/2000 школьным годзе: дэкламатарскага, тэатральнага, песеннага ды ўпершыню — для калядоўшчыкаў, якія арганізоўвае Беларускае таварыства. Былі таксама аб'яўлены тэрміны раённых (10 лютага 2000 года) і ваяводскіх (5 сакавіка) элімінацый прадметнага конкурсу па беларускай мове.

**Янка Целушэцкі**

# Эканоміка рынachнага сацыялізму

У гэтым годзе не адбыліся цэнтральныя святкаванні дня ўраджаю ў Беларусі. Плён працы калгаснікаў быў настолькі нізкі, што святкаванні з гэтай нагоды былі б чыстым фарсам. Дарэчы, ураджайнасць у рэспубліцы з году ў год усё меншае. Лукашэнка ў сваіх тэлевізійных выступленнях за штораз ніжэйшы плён вінаваціць надвор'е. Раз тлумачыць, што было надта мокра, другі раз, што надта суха. У гэтым годзе ўсяму вінаватай аказалася халодная вясна і спякотнае лета. Невядома ці нехта яшчэ яму верыць, але беларускі люд атрымлівае нейкае паясненне наконт таго, чаму ў крамах не заўсёды ёсць масла, малако, мяса або гарэлка.

Зараз пасля Новага года ў беларускім тэлебачанні пачынаецца падрыхтоўка да веснавой сяўбы. Лукашэнкаўскія журналісты вядуць размовы з усялякімі савецкімі інтэлектуаламі і вертыкальшчыкамі. І хаця невядома аб чым яны гавораць, аднак ход дыскусіі выклікае ўражанне, быццам бы краіна рыхтавалася да нейкай ваеннай акцыі. Бліжэй вясны Лукашэнка штогод склікае нараду гаспадарчага актыву. Падчас прамой трансляцыі тэлегледачы могуць пабачыць як вялікі „вождь" кіруе „бітвай за ўраджай". У гэтым змаганні на полі бою часам пацярпеўшымі бываюць міністры-генералы. „Вождь" пастаянна іх так моцна лае, што пасля такой зняваги чалавек, які меў бы крыху гонару, павінен падацца ў адстаўку. Але ў савецкай традыцыі такога не бывае.

Невядома што адбываецца на полі, але ў тэлебачанні пасяўная кампанія выглядае даволі сенсацыйна. Напрыклад, на верталёце на калгаснае поле спускаецца першы гаспадар краіны. Паціскае руку трактарысту, пытае пра заробкі і праблемы штодзённага жыцця. Аказваецца, што праблемаў найчасцей ніякіх няма, а плата даволі высокая. Шчаслівы трактарыст працягвае працаваць, а перад камерай выступае мясцовы чыноўнік, які з пакорлівасцю аканома нешта тлумачыць калгаснаму Напалеону. Пасля выказвацца Лукашэнка, які не гаворыць пра пасяўную кампанію, а толькі пра праблемы глабальнай палітыкі.

Калі ўжо збожжа спакойна расце, увагу люду прыцягваюць іншыя спектаклі — святкаванне 1 Мая, 9 Мая, часам дэманстрацыі, арганізаваныя „вядомымі сіламі", і сенакосы. Але ўжо ў чэрвені пачынаецца рашучы перыяд „бітвы за ўраджай". Чарговая нарада і шматгадзінны маналог прэзідэнта Лукашэнкі адкрывае жніўную кампанію. Мабілізацыя ахоплівае таксама гарадское насельніцтва. У тэлебачанні паказваюцца камбайны і камбайнеры, залатая пшаніца сыплецца перад вачыма тэлегледачоў. На жніўным фронце галоўнакамандуючы бачны аднаго дня пад Віцебскам, другога пад Пінскам, трэцяга пад Гроднам і г.д. Паціскае руку камбайнерам, з сур'ёзнай мінай слухае рапарты сваіх палкоўнікаў-дырэктараў калгасаў, дае загады, адказвае на пытанні сваіх журналістаў.

У тэлебачанні арганізацыя жніўнай кампаніі выглядае на ўзорна падрыхтаваную, усе пад кіраўніцтвам Лукашэнкі змагаюцца за поўную перамогу. У сапраўднасці выглядае гэта зусім інакш, але каго цікавіць праўда. У гэтым годзе, ужо на пачатку верасня было аб'яўлена пра паспяховае заканчэнне жніва. Вялікі Аляксандр атрымаў яшчэ адну вялікую перамогу. Пару тыдняў пасля аказалася, што сабраных было трыццаць працэнтаў збожжа менш, чым у мінулым годзе, і, каб пракарміць народ, трэба будзе купіць за мяжой два мільёны тон пшаніцы. Прынцыпам стаў ужо факт, што калі Лукашэнка часцей верталётам наведвае калгасы, тым хутчэй падае сельскагаспадарчая вытворчасць. Гэтую простую залежнасць заўважае, аднак, няшмат людзей і таму, калі нішто не памяняецца, ранняю вясною 2000 года можна чакаць чарговай падрыхтоўкі да новай бітвы, а восенню — вялікай перамогі Аляксандра Рыгоравіча.

**Яўген Міранові ч**

# Сустрэча з лідэрам Беларускай перспектывы

[1 ☞ працяг]

дзе. Сёлета прынцыпова новым было тое, што мітынг арганізаваў не адзін пачынальнік, а прадстаўнікі самых розных дэмакратычных фармацый — уся аб'яднаная апазіцыя. Кіравала ёю новае пакаленне палітыкаў. Яны не высвятлялі адносін паміж сабою, толькі прадстаўлялі індывідуальныя ідэі. Былі тут Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Анатоль Лябедзька, Алесь Бяляцкі, Зміцрок Бандарэнка, Мікола Статкевіч і іншыя. Акцыя была старанна запланавана. Увесь час беларускія апазіцыйныя газеты інфармавалі пра яе, а да таго ж яшчэ было ўсё закідана лістоўкамі нягледзячы на загады здзіраць і змываць іх. Удзельнікаў дэманстрацыі было многа і паводзілі яны сябе смела — гэта была справа іх жыцця.

Дагэтуль дэманстравалі па тратуарах, спыняючыся перад чырвоным святлом светафораў. Але калі сабралася крытычная маса, тады паход заняў усю вуліцу. Гэта сведчанне таму, што рэжым дацiснуў грамадства так, што людзі зразумелі, што даўжэй маўчаць нельга. Удзельнікамі шэсця былі пераважна студэнты, маладая інтэлігенцыя, сярэдні клас. Быў гэта пратэст супраць рэжыму, які не дае жыць нармальна.

Дазволу на мітынг на Плошчы Незалежнасці, на якой адбываліся найважнейшыя беларускія падзеі, арганізатары прасілі ў гарадскіх улад; улады адмовілі. Арганізатараў падтрымалі і працаўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў, звяртаючы ўвагу, што калі народ хоча гаварыць з уладай, яна павінна таксама так зрабіць. Аднак „размова" з народам адбылася на мосце цераз Свіслач. Было многа раненых з абодвух бакоў і шкада тых усіх ахвяр гэтага „дыялогу".

Падзеі ў Мінску аглядалі дыпламатычныя прадстаўнікі і замежныя журналісты. Была таксама дэпутат расійскай Думы ад „Яблыка" Вольга Беклямішчава, якая пазней дала інтэрв'ю маскоўскаму тэлебачанню. Яна шмат чаго не зразумела, бо ў сённяшняга пакалення расійскіх палітыкаў імперскае мысленне сядзіць у касцях. Яны падтрымліваюць Лукашэнку, якога самі не любяць.

На пытанне, калі Лукашэнка будзе адхілены ад улады, Валянціна Трыгубовіч адказала, што абстаноўка ў Беларусі нагадвае пажар на балоце: ён тлее, а калі ўспыхне — цяжка адказаць. Эканамічная сітуацыя ў Беларусі ўсё горшае, бо нават гарэлкі ўжо няма і выправіць гэта ўсё цяжэй. Літва спыняе пастаўку электраэнергіі, Расія яшчэ дае газ і нафту, але ўсё вісіць пытанне перакрыцця гэтых паставак. Да хатаў, у якіх ёсць печы на дровы, адключылі ўжо газ, гарадскі транспарт не аднаўляе машыннага парку. І такая сітуацыя вучыць лепш ад любое прапаганды. Цяжка сказаць, што будзе пасля адхілення Лукашэнкі: ці людзі зноў будуць чакаць добрага цара, які ім усё дасць, ці будуць самі будаваць сваё жыццё. Маладыя людзі гатовы за сваё жыццё змагацца самі.

І нарэшце яшчэ адзін эпізод, звязаны з апошнімі падзеямі ў Мінску. Улады рашылі арыштаваць Паўла Жука, былога рэдактара „Навін" і „Свабоды". Прыязджаюць міліцыянты на кватэру. Адкрывае ім дзверы малады чалавек.

— Вы Жук? — пытае міліцыянер.

— Жук, — адказвае маладзён.

Тут яму клап наручнікі і на ўчастак. А там працаўнік спецслужбаў, які Паўла Жука ўжо добра ведаў, на тых міліцыянераў з матам:

— Каго вы прывезлі?!

Бо Паўла Жука ў той час на кватэры не было і дзверы міліцыянерам адчыніў яго сын.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Знішчэнне мовы

***(заканчэнне; пачатак у 31 н-ры)***

**13. Знішчэнне моваведаў**

Сярод іншых пералічаных спробаў лінгвацыду можна назваць пераўтварэнне мовазнаўства на паслухмяны інструмент русіфікацыі. Для гэтага мовазнаўцаў-беларусістаў знішчалі фізічна. Адбывалася гэта са сталінскіх часоў. Тады былі расстралянымі:

— Браніслаў Тарашкевіч, аўтар „Беларускай граматыкі для школ", прапанаваны ім правапіс быў заменены „наркомаўкай";

— Язэп Лёсік, аўтар „Практычнай граматыкі беларускай мовы";

— Максім Гарэцкі, складальнік беларуска-расійскага і расійска-беларускага слоўнікаў;

— Сцяпан Некрашэвіч, складальнік аналагічных слоўнікаў.

Падвяргаўся арышту сааўтар М. Гарэцкага і С. Некрашэвіча па складанні гэтых слоўнікаў (дарэчы, расіец з паходжання) Мікола Байкоў.

Быў рэпрэсаваным Іван Бялькевіч, аўтар „Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны". Шмат іншых беларусазнаўцаў-моваведаў было рэпрэсаваных і загінула ад куль чырвоных катаў.

Іхняе месца заступілі мовазнаўцы, якія вымушаны былі прапагандаваць "узбагачэнне" беларускай мовы за кошт рускай і абгрунтоўваць гэта тым, што апошняя "па сваім багацці", па грандыёзным значэнні тых каштоўнасцяў, што створаныя на гэтай мове займае адно з першых месц сярод вядучых моваў свету".

А нехта можа не здагадацца, адкуль ідуць згаданыя вышэй словы аб наяўнасці дзвюх „вялікіх" моў — рускай і англійскай!

Пералічыць усе спосабы лінгвацыду даволі цяжка. Ёсць і іншыя спосабы, але на першы раз і прыгаданага вышэй, здаецца, досыць, каб зразумець, што механізм русіфікацыі працаваў і працуе на поўную моц дзеля таго, каб не было чаго чытаць (а ў нашы часы — слухаць і глядзець) беларускаю мовай. Гэтая праца, як мы пабачылі, цынічна і нахабна вядзецца ўжо ці не два з лішкам стагоддзі. І вядзецца з поспехам.

**Валянцін Грыцкевіч**

# Спатканне парламентарыяў з нацменамі

Чарговае спатканне сеймавай Камісіі нацыянальных меншасцей з прадстаўнікамі нацменаў адбылося 28 верасня г.г. у Гданьску. Тэмай спаткання было азнаямленне з праблемамі нацыянальных меншасцей, пражываючых на Гданьскім Памор'і. З прадстаўнікамі беларусаў, украінцаў, немцаў, літоўцаў і кашубаў спаткаліся, апрача членаў парламенцкай Камісіі, паморскі ваявода В. Савінскі, генеральны консул Украіны ў Гданьску, віцэ-прэзідэнты Гдыні — Марэк Стэмпень і Гданьска — Адам Ляўдоўскі, прадстаўнікі Міністэрства нацыянальнай адукацыі і Заступніка грамадзянскіх правоў.

Апрача намесніка старшыні Рады горада Гданьска пана Лісіцкага, усе астатнія да праблем нацыянальных меншасцей, пражываючых на Памор'і ставіліся прыхільна. Пан Лісіцкі заявіў, што праблемы меншасцей павінны вырашаць яны самі. Калі меншасныя арганізацыі хочуць мець свае памяшканні, калі ласка. Цяпер з памяшканнямі няма праблемаў. Трэба сабраць толькі складчыну сярод членаў і праблема з памяшканнем знікае. Адным словам, маем дэмакратыю і кожны можа рабіць што захоча, усё, чаго не забараняюць законы.

Праўда, улады Гдыні і Сопата прызначылі са сваіх рэсурсаў памяшканні для розных таварыстваў, у тым ліку і для беларусаў. Для літоўцаў гэта аж надта. Запрашаюць яны на сустрэчы ў Гдыню ў кожную сераду. Беларусы могуць спатыкацца ў нядзелю пасля абеду ў Сопаце. На ўмовы не наракалі і немцы. Калі яны маюць нейкія праблемы, то справы меншага гатунку рашаюць самі, большага — пры дапамозе ваяводскіх улад. Затым у чым справа? У тым, што Гданьск, нягледзячы на вусныя дэкларацыі, на справе ў нічым меншасцям не памагае. Таварыства ўкраінцаў памяшканне пры Доўгім Таргу ў Гданьску можа займаць, бадай, да 2000 года. Што далей — невядома. Ад некалькіх гадоў цягнецца справа памяшкання пры вул. Альжбятаньскай, якое займаў Гданьскі аддзел БГКТ. Пра гэта і не толькі гаварыў пасол Ян Сычэўскі. „Прыхільнасць улад Гданьска да меншасцей гэта толькі тэарэтычная дэкларацыя, далёкая ад практыкі, — сказаў пасол. — Замест памагчы беларусам, цягаюць іх па судах. Скептычна бачу справу прыняцця Сеймам РП закону аб меншасцях".

Украінцы і беларусы прапануюць, каб апекай над меншасцямі займалася дзяржава, а не самаўрады. Ад самаўрадаў ніякай помачы чакаць нельга, а яркім прыкладам гэтаму можа служыць Беласток. Перад усім фінансавую падтрымку павінны гарантаваць законы з прызначэннем на культурна-асветную дзейнасць, — да такога вываду дайшоў на канец спаткання пасол Войцех Гаўснер.

**Міхась Куптэль**

# Блакітная рэспубліка

**9. Трэба дарыць любоў**

**— Як разумееш цуд? — пытаем семінарыста Сярожу.**

**— Цуд?**

**Каб дасведчыць цуд, трэба адкінуць духовую слепату. А асноўнае — дарыць любоў.**

І вось апынуліся мы на шляху ў Жыровічы. З перспектывы трох кіламетраў мы смакавалі, дарэчы, замест снедання, цудоўную карціну. Вежы і купалы манастырскіх цэркваў ахінутыя ранняй імглой наводзілі думкі пра старажытныя замкі — крэпасці. Асалоду папаўняла ціхая прыгажосць Слонімскай зямлі. Тамашні краявід з сытымі ўзгоркамі, узлескамі, маляўнічай далінай Шчары, у многім напамінаюць нашу Сакольшчыну.

Са Слоніма ў Жыровічы ўсяго дзесяць кіламетраў, у сам раз каб перайсці пешаходам-паломнікам ды перадумаць свае грахі і спадзяванні.

У Жыровічах прывітаў нас маркотны подых сучаснасці. На пляцы побач муроў манастыра бегалі худыя сабакі. Жыровічы, сёння прыкалгасная вёска, яшчэ не атрэсліся ад бяздушных часоў атэізму. Няма таксама асноўнай турыстычнай інфраструктуры. Нідзе ў наваколлі манастыра мы не сустрэлі сталовай ці крамы з сувенірамі. Быццам у мясцовых гаспадароў не было ніякага дачынення да шматвяковай багатай спадчыны.

Пераходзім браму манастыра. Нашая вопратка не падыходзіць да пануючых парадкаў. Манашка — бабуля з вязкай цяжкіх ключоў, вяртае нас да ўваходнай брамы. Там адчыняе непрыкметны ларок і за сімвалічную плату пазычае спадніцы і палатныя хустачкі. Пераапранутыя, можам аглядаць інтэр'ер Успенскага сабора, пакланіцца іконе Жыровіцкай Божай Маці. Можам таксама папрасіць экскурсавода — на рускай або англійскай мовах. Заказваем беларускамоўнага гіда. Нашае жаданне, пасля гадзіннага чакання, у час якога пасяпаваем падаць запіскі за здароўе родных і ўпакой памерлых, спаўняецца. Да нас выходзіць семінарыст у форме.

Сяргей Цвірко займальна расказвае пра слаўную мінуўшчыну. Натхнёны голас семінарыста неяк сугучна зліваецца са шматвяковай малітвеннасцю месца.

Слава Жыровіч пачынаецца цудадзейным здарэннем.

*— Ёсць год 1470. Дзеці — пастушкі бачаць на грушцы каменную іконку, ад якой ідзе святло. Пастушкі пазнаюць на іконцы Божую Маці з малым Ісусам. Ашарашаныя, нясуць яе свайму памешчыку Аляксандру Солтану. Той недаверліва ставіцца да расказаў дзяцей, аднак прымае іх дар і хавае ў сваю скрытку. Праз дзень пастушкі зноў прыносяць уладальніку тую самую іконку. Памешчык здзіўляецца — у ягонай скрытцы няма прыхаванай іконы. Зараз і ён пачынае верыць у цуд. Весткі пра здарэнне маланкава абыходзяць Вялікае княства Літоўскае. На месцы цудадзейнага здарэння ўзводзіцца драўляная царква.*

Цудадзейныя Жыровічы выяўляюць таксама цікавую архітэктуру. Манастырскі ансамбль мае аб'ёмна-прастораву кампазіцыю і выразна шматпланавы сілуэт. Ядро кампазіцыі становіць Успенскі сабор. Царква мае выгляд базілікі. Звонку выяўляе рысы класіцыстычнага стылю, унутры — барочны інтэр'ер.



*Успенскі сабор.*

З паўночнага і паўднёвага боку да сабора прымыкаюць тры цёплыя прыдзелы: Прасвятога Пакрова Маці Божай, Раства Іаана Хрысціцеля і св. Мікалая Цудатворца.

Ікона Жыровіцкай Маці аздобленая срэбным абкладам і барочным алтаром. Зараз вядуцца старанні вярнуць з расійскіх фондаў карону з брыльянтамі, якія ў 1730 годзе падарылі Радзівілы.

На тэрыторыі манастыра знаходзіцца яшчэ Крыжаўздзвіжанская царква — у стылі ракако і Богаяўленская царква. Апошні храм пабудаваны ў стылі барока.

Зараз у Жыровічах дзейнічаюць мужчынскі і жаночы манастыры. З 1989 года працуе семінарыя. У семінарыі 230 навучэнцаў. Вучоба працягваецца пяць гадоў. Раней працавалі тут беларускамоўныя класы. Сёння ўсё менш на ўроках выкарыстоўваецца беларуская мова. Нават у так званых беларускіх класах найчасцей прымяняецца мова братняга народа.

— Беларуская мова быццам ёсць і быццам яе няма, — кажа Сярожа. Семінарыст называе прозвішчы настаўнікаў, якія пастаянна карыстаюцца роднай мовай. Мова аб айцу Алесю Віктаравічу Каралю і айцу Георгію Сокалаву. У манастыры жыве паслушнік паэт Алег Бембель. Ягоныя вершы друкуюцца ў манастырскай лістоўцы.



*Сяргей Цвірко на фоне Богаяўленскай і Крыжаўздзвіжанскай цэркваў.*

Пры саборы заснаваная рэгенцкая школа для дзяўчат.

* * *

Цудам вярталася ікона Жыровіцкай Божай Маці на радзіму.

У час першай сусветнай вайны ікону разам з каронай, архівам і каштоўнасцямі завезлі ў Маскву. Там праляжала сем гадоў у падвалах сабора св. Васілія, што на Краснай плошчы. Толькі ў 1921 годзе епіскапу Ціхану Шарапаву пашанцавала перавезці ікону ў слоіку з варэннем.

Захопленыя цудоўнымі аповедамі падыходзім да іконы. Сяброўкі-каталічкі таксама хочуць пакланіцца беларускай святыні. За тое сустрэне іх агрэсіўная заўвага манашкі.

— Вы чаго панаязджалі сюды! Наша вера і так мацнейшая за вашу. І так наша вера победит вашу!

— Не надо, матушка, не надо, — супакойвалі ўсхваляваную старэчу наш экскурсавод і іншыя манашкі, што прыслужвалі ў храме.

Пры нагодзе мы адчулі атмасферу праваслаўна-каталіцкай вайны за уніяцкую спадчыну.

Распытваем Сяргея, чаму пастуліў у семінарыю.

Асабістая гісторыя Сяргея не менш цікавая. Хлапец нарадзіўся ў ГДР у сям'і ваеннаслужачых. Дзяцінства праводзіў найперш у Гале, пазней у Лейпцыгу, затым сям'я пераехала на Забайкалле. Сяргей усё ж адшукаў свае карэнні. Вярнуўся дарыць любоў зямлі продкаў. Хлапец у многім нагадваў нам Максіма Багдановіча.

Сярожа таксама піша вершы.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Беларусам трэба ездзіць у Кракаў

*Czy to raz się bywało w Krakowie!..*[*] І за кожным разам чалавек з хваляваннем заглядаў на дзядзінец *Collegium Maius*, пад галерэямі якога калісьці гучалі крокі палачаніна Францішка Скарыны. З замілаваннем кружыў паміж уквечаных ларкоў вакол помніка ўраджэнцу Навагрудчыны Адаму Міцкевічу. З муроў Вавеля ўглядаўся ў напрамку Кургана, насыпанага ў гонар Тадэвуша Касцюшкі з Берасцейшчыны. А на той Вавель ішоў кожны раз прываблены Пагоняй на яго галоўнай вежы.

На Вавелі 6 кастрычніка быў урачыста адкрыты III Міжнародны тэлевізійны фестываль этнічных фільмаў і перадач „У сябе".

— Прамаўляць у зале, дзе калісьці каралі прымалі паслоў іншых дзяржаў, гэта вялікі гонар, — сказаў на адкрыцці Вальдэмар Янда, дырэктар фестывалю. — Трэба памятаць, што гэтыя каралі ўладарылі вялікай шматнацыянальнай Рэччу Паспалітай. Пакуль была ў ёй талерантнасць і ўзаемапашана, гэтая дзяржава была адной з самых магутных у тагачаснай Еўропе. Калі паявіліся нацыянальныя і рэлігійныя прадузятасці, непаладкі, прапала магутнасць, а потым і сама Рэч Паспалітая.

Удзельнікі фестывалю, бы калісь тыя паслы, папрыязджалі з розных краін, ад розных народаў. І ўсе яны паднялі келіхі з шампанскім за поспех фестывалю ў Сенях Аршанскай бітвы. Нам асабліва прыемна было ў той момант чокнуцца з маскоўскімі калегамі.

А яшчэ больш прыемна адзначыць, што мала-памалу Беларусь выходзіць са сваіх балот ды лясоў на салоны Еўропы (у 2000 годзе Кракаў будзе культурнай сталіцай Старога кантынента). Упершыню на фестывалі паявіліся беларускія журналісты. Праўда, не дэманстравалася беларуская кіна- і тэлепрадукцыя, але і гэта неўзабаве будзе.

Ролю фарпосту Беларусі выпаўняў Беласток. Склалася ўражанне, што ў Кракаве ўспрымаюць нас як вельмі моцную нацыю, якая амаль што кіруе тутэйшым тэлебачаннем, паспяхова псуе нервы засценкавым палітыкам (чулі ўжо там пра гевалт, які ўчыніў пасол Юргель супраць „Часопіса") і стварае сваю медыяльную імперыю — Радыё Рацыя. Варта было праехацца на другі канец Польшчы, каб такое пачуць!

Прыемна было пабываць у пачатку кастрычніка ў Кракаве яшчэ і за справаю артыстаў з Мінска, якія прывезлі добра вядомы аматарам беларускай музыкі „Народны альбом". Тэатралізаваны музычны спектакль прэзентаваўся ў мурах цудам ацалелага з мадэрнізацыі горада ў XIX стагоддзі Барбакана. Насуперак злосліваму надвор'ю, халадэчы і дажджу (электрычны ток з мокрых правадоў некалькі разоў паказытаў Лявона Вольскага) канцэрт атрымаўся суперовы. Варты двухсот тысяч новых польскіх злотых, якія выдаткавала на яго Польскае тэлебачанне. Канцэрт запісваўся сямю камерамі, адна з якіх лётала пад нябёсамі на гігантскім кране, здымаючы ўвесь стары горад. Калі газеты надрукуюць анонс канцэрта ў тэлебачанні, ад шчырага сэрца раю, не праваронце!

* * *

Час ад часу беларусам трэба наведаць Кракаў. У горшым выпадку хоць праз пасрэдніцтва тэлевізара.

**Мікола Ваўранюк**

[*] Так пачынаецца кніжка Сакрата Яновіча „Białoruś, Białoruś".

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Сама не магу паверыць!

**Рэдакцыя „Зоркі” размаўляе з Анэтай ГАЛІМСКАЙ, лаўрэаткай IV Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы.**

**Зорка:** ***16 кастрычніка гэта важны для цябе дзень. Ты апынулася сярод найцікавейшых дэбютантаў, атрымала канкрэтную ўзнагароду (450 злотых), ды яшчэ зборнік — узнагароду паэта Яна Чыквіна. Скажы, як успрымаеш такі вялікі поспех?***

**Анэта:** Я вельмі цешуся. І праўду кажучы, сама не магу паверыць яшчэ ў свой поспех.

***— Як пачалося тваё сяброўства з паэзіяй?***

— Першыя вершы я напісала пасля Сустрэч „Зоркі”, якія ў гэтым годзе адбыліся ў Старыне.

***— Памятаю твой першы ліст у рэдакцыю. Ты наракаеш — пішаш, што сябры, пабачыўшы твае вершы ў „Зорцы”, не паверылі, што ты іх аўтар.***

— Яны чамусьці падумалі, што гэта мая сястра напісала за мяне вершы.

***— Твая сястра, Агнешка Галімская, самая цікавая індывідуальнасць „Зоркі” (друкавалася ў „Першацвеце” і на Літаратурнай старонцы) — мае зусім іншы стыль.***

— І зусім іншы характар.

***— Раней ты вучылася ў Старым Корніне, дзе беларускай мове навучаў Васіль Сегень. А зараз?***

— Цяпер я вучаніца VIII кл. Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Беларускай мове навучае мяне спадарыня Мар'я Казімярук.

***— А дзе далей хочаш вучыцца?***

— Думаю пра польскі ліцэй.

***— Чаму не пра беларускі?***

— У Гайнаўскім белліцэі вучыцца мая сястра!



*Анэта ГАЛІМСКАЯ* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Толькі ты

*З табой я хацела сніць,*
*З табой я хацела жыць,*
*З табой я хацела марыць,*
*З табой я хацела свет пабачыць,*
*Да цябе маё сэрца бяжыць,*
*З табой злучыліся нашы долі,*
*Ды цябе я не спаткала ніколі.*

**Васіль Сахарчук**

## Моўныя загадкі

**1**

Расказваць многа
пра сябе
няма ахвоты,
мае склады,
апроч другога, —
ноты.
Другі таксама нотай стаць
напагатове,
калі замест „о” пісаць
„і” ў гэтым слове.
Але галосныя таго
не пажадалі
і тут жа з каліва майго
стручкі парвалі.

*(фасоля = фа + со + ля)*

**2**

Вадкасць я, але не квас,
а напітак панскі
і ў прыдачу ў адначас —
грозны бог паганскі.

*(кава)*

**3**

Калі ты добры сябяр школы,
дзялі мяне на два склады
і знойдзеш ува мне тады
зусім дзве розныя жывёлы.
Адна з іх вельмі любіць норы,
другая вельмі любіць горы;
адна з іх мае доўгі хвост,
другая — поўсць на поўны рост;
адна з іх і ката баіцца,
другая з тыграм можа біцца.
Я боль зубны магу суняць
і ў адначас атрутай стаць.

*(мыш'як = мыш + як)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 44

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | ▼ | | Łyżka | Jęk | Saara | |
| Szpak | Ar / Dar | | Las / Wosk | ▶ ▼ | ▼ | ▼ | |
| Dróżka | ▼ | Wynos / Ryż | ▶ ▼ | | | | |
| ▶ | | ▼ | | | | | |
| Ryzyko | ▶ | | | | 📖 | | |
| 📖 | Harcerz | ▶ | | | | | |

**Адказ на крыжаванку з 40 н-ра:** палон, міг, Крым, завала, Об, дранік, соня, дрымота, трал, абадок, сак, крык, як. Адрас, рыба, замак, анод, квіток, рака, пыл, мастак, орт, ікона, бяляк.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Міра Заброцкая** з Лядаў, **Малгося Карнілюк** з Хітрай, **Івона Трафімюк** са Старога Беразова, **Моніка Калішук** з Новага Беразова, **Аня Каліноўская** з Махнатага, **Кася Ярашэвіч** і **Кася Лукашэвіч** з Кнарыд, **Крыстафор Прычыніч** з Махнатага і **Анджэліна Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

Уладзімір Арлоў

# Адкуль наш род — апавяданні па гісторыі Беларусі

### Барысаў камень

Прыехаўшы ў Полацк, на высокай гары, дзе стаіць Сафійскі сабор, вы ўбачыце вялізны чырванаваты камень. На ім высечаны шасціканцовы крыж і старадаўні надпіс. Гэта зроблена па загадзе старэйшага Усяслававага сына князя Барыса. Ідучы на вайну, князь прасіў Бога дапамагчы. Камень так і называюць — Барысаў.

Князь Чарадзей меў яшчэ пяцёра сыноў. Яны кіравалі рознымі гарадамі Полацкага княства, аднак, калі трэба было, злучалі свае дружыны і разам адстойвалі незалежнасць. Сярод нашчадкаў Усяслава было нямала храбрых ваяроў і таленавітых палкаводцаў. Але найбольшую славу пасля князя Чарадзея прынеслі Беларусі не воіны. Гэта зрабіла ягоная ўнучка Еўфрасіння.

Адна старэйшая кніга называе Еўфрасінню арлом, які праляцеў па небе ад захаду да ўсходу і, як прамень сонечны, прасвятліў усю зямлю Полацкую. За што ж заслужыла яна такія прыгожыя словы? Пра гэта — наша наступнае апавяданне.

***Задача чытачу***

**Сябры! Прапануем Вашай увазе конкурс.**

Вашай задачай будзе размаляваць у выглядзе комікса гісторыю князя Усяслава Чарадзея. Самыя цікавыя малюнкі надрукуем, а аўтары атрымаюць узнагароды — каляровыя алоўкі. Усіх зацікаўленых конкурсам просім дасылаць працы на працягу трох тыдняў.



VIII клас ПШ у Новым Корніне. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Анэта ГАЛІМСКАЯ*

## *Вясна*

*Харошая зялёная трава,*
*Харошыя разнавідныя кветкі,*
*Пукі на харошых дрэвах,*
*Зялёна ва ўсіх галовах,*
*Вялікая ўжо жара,*
*На лугах і ў лесе краса,*
*Найпрыгажэйшая пара —*
*Разнакаляровая вясна.*

## *Сябра*

*Мой сябра адзіны ў свеце*
*Такога сябры нідзе не найдзеце*
*Мой сябра прытуліць як трэба*
*Паможа знайсці дарогу ў неба*
*Мой сябра абароніць ад злога*
*Паможа здабыць у жыцці многа*
*Мой сябра скажа што думае*
*І ніколі мяне не абмане*
*Мой сябра адзіны ў свеце*
*Такога сябры нідзе не найдзеце.*

# *Воўк*

На адну воўчую сям'ю выпадае да двухсот квадратных кіламетраў тэрыторыі. Казану падарылі некалькі соцень метраў. І так папала яму лепш, чым іншым звярам закрытым у заапрку. Аднак не магло гэта ўчыніць звяра шчаслівым.

Шэсць гадоў таму была прыгожая вясна. Ваўчыца, маці Казана, схавала сваіх шчанятак у самым глухім кутку пушчы. Але на след гнязда натрапіў чалавек. Забраў шчаня — магчыма, што ваўчыца ахвяравалася б сваім жыццём бароначы малога. І гэты таксама, пэўна, бараніўся б адчайна. Інстынктыўна прадчуваў, што траціць нешта найдаражэйшае. Найкаштоўнейшую ў сваім воўчым жыцці свабоду. Вучылі яго зжыцца з чалавекам. З цягам часу паказалася, што ваўка нельга перарабіць на сабаку. Тады прынеслі Казана ў паказальны запаведнік Белавежскага парку. Воўк не баіцца людзей, паварочвае нават мызу, чуючы сваё імя.

Толькі часам Казан пранізліва вые. Можа такім чынам кліча ён сваю ватагу? А можа заве на дапамогу кліч пушчы? Людзі адабралі яму волю. А ён бегаў бы разам са сваёй зграяй па лясной гушчы за звярынай? Хто гэта сёння ведае!?

У Белавежскай пушчы захавалася больш за дзесяць ваўкоў. Усё гінуць наступныя. Мінулай зімой браканьеры злавілі дзве дарослыя самкі — у тым ліку важачку ватагі — вадэру. Ніхто не ведае, які лёс сустрэне ваўчанят без апекі ваўчыцы. Ці навучацца яны самастойнага жыцця ў пушчы?

А Казан глядзеў мне проста ў вочы. Сумна.

**Малгажата ШУМІЛЯС**
*„Z Pogranicza"*

# *У ліцэі*

Гэтай восенню я пачала вучыцца ў беластоцкім ліцэі нумар 1, які носіць імя Адама Міцкевіча. У гэтым ліцэі вучылася мая мама, дзве мае цёткі і адзін дзядзька. Я нават не ўяўляла сабе, што пайду вучыцца ў нейкі іншы ліцэй, хаця многія мяне пужалі, што там цяжка, што настаўнікі вельмі патрабавальныя. Некаторыя проста пыталіся: „І ты не баішся? Вунь Агнешка, такая добрая вучаніца, а вось жа не вытрымала, перайшла ў іншы ліцэй".

Ну, і што, калі цяжка? Мама кажа, што ў жыцці будзе лягчэй. Напрыклад, 95 працэнтаў мінулагодніх выпускнікоў ліцэя працягвае далейшую вучобу, а 91 працэнт з іх вучыцца ў поўных вышэйшых навучальных установах. Значыць, ім удалося!

У рэйтынгу перспектыў сярод ста найлепшых ліцэяў у Польшчы наш ліцэй займае 69-ае месца. Адзіны з Беластока. А што датычыцца ваяводства, дык у ліку найлепшых таксама беларускі ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча з Бельска-Падляшскага. Такім чынам, усяго два ліцэі з нашага ваяводства.

Па выніках навучання наш ліцэй знаходзіцца на першым месцы ў Беластоку. Ад 1994 года ён належыць да Таварыства творчых школ (у ваяводстве ўсяго дзве такія школы — наша і яшчэ ў Ломжы).

**Першае ўпамінанне пра нашу школу адносіцца да 1777 года.** Была яна створана па ініцыятыве Ізабелы Браніцкай, пры падтрымцы Ісаахіма Храптовіча, канцлера літоўскага і камісара адукацыі Вялікага княства Літоўскага. Szkoła Akademicka Zgromadzenia Białostockiego (так яна тады называлася) была падначалена Віленскаму універсітэту. Была гэта школа для 115 хлопцаў з 6-гадовай вучобай. Раней вучні павінны былі быць падрыхтаваны ў парафіяльных школах ці ў прыватных настаўнікаў.

Я прыйшла ў ліцэй з пачатковай школы нумар 9. Усё тут для мяне новае і прыемнае: вучні — мае сябры і настаўнікі. Ёсць розныя гурткі, і кожны можа сабе выбраць дадатковы занятак паводле зацікаўленняў: у матэматычным, мастацкім, тэатральным, фатаграфічным і іншых гуртках. Мне б хацелася хадзіць у фатаграфічны гурток, але пакуль што трэба вучыцца, бо работы ўжо нямала.

У школе ёсць радыёвузел, і на перапынках перадаюць музыку.

А нядаўна ў нас былі „атрасіны". Цэлы тыдзень перад гэтым першакласнікі хадзілі з „хвосцікамі", прыслужвалі чацвёртым класам, рабілі ім бутэрброды. Апрача таго, кожны першы клас атрымаў заданні. Мой клас, напрыклад, меў перамераць пакоі дырэктара і віцэ-дырэктара, а таксама ссумаваць узрост біёлагаў і хімікаў.

„Атрасіны" пачаліся ў суботу 9 кастрычніка а гадзіне 15-ай. Спачатку мы сышлі ў падвал. Там нас выпэцкалі па тварах пенай для галення. Загадалі на каленях ісці па сходках на партэр. Там ужо стаяў тунель, зроблены з лавак. Нам трэба было прапаўзці праз яго. Добра, што я на пачатак апранула спартыўны касцюм.

Ну, а пасля было ўсяго. Нас „частавалі" бутэрбродамі з „папрыкажам" і зубной пастай, давалі штосьці гадкае піць, есці нешта, напамінаючае ваніты, а таксама нечым паілівалі. На шчасце, мне ўдалося абысці шмат з гэтых „прыемнасцей".

А тады ўжо можна было пагуляць на дыскатэцы. Мы мыліся, пераапраналіся. Некаторым давялося нават мыць галаву.

Ігрdefault цудоўная музыка.

**Адрыяна СЕМЯНЮК**



# *Свята печанай бульбы*

Ужо традыцыйна ў кастрычніку Гайнаўскі дом культуры арганізоўвае ля паркавай карчмы „Пад грабамі" ды ля бара „Пад бульбачкай" Свята печанай бульбы — перш за ўсё для дзяцей і моладзі з горада. Вельмі ўдала гэтае сьвяткаванне адбылося і сёлета. Былі конкурсы, між іншым, на найлепшага повара, гульні і забавы ля вогнішча, а таксама выбары Бульбянога Караля. У гэты раз каралевай была выбрана Вераніка Каценцкая. А як жа смакавала ўсім бульба проста з попелу!

**(гай)**

*Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА*

# *Маю магчымасць вучыцца роднай мове*

У гэтым годзе споўнілася мая мара, я стала вучаніцай першага класа II Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Школа мае ўжо 3 460 выпускнікоў. Да гэтага ліку належыць мая мама, хросная маці і многа сваякоў. Усе яны закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы. Школу ўспамінаюць з вялікім пачуццём гонару. Абітурыентаў белліцэя можна сустрэць ва ўсіх частках свету. 25-26 верасня г.г. дарогі іх злучыліся на некалькі гадзін. У гэтых днях адбыўся пяты з'езд выпускнікоў. Ажылі калідоры і класы, нямыя сведкі пяцідзесяцігадовай гісторыі школы.

Увосень 1944 года па просьбе беларускага насельніцтва была створана ў Бельску-Падляшскім сярэдняя школа — чатырохгадовая беларуская гімназія і двухгадовы беларускі ліцэй. Умовы ў невялікім будынку, што на скрыжаванні вуліц 3-га Мая і Т. Касцюшкі, былі вельмі цяжкія. Вучням за стол часта služыла калена. Вучыліся яны на тры змены — ад сямі раніцы да позняга вечара. У 1946 годзе беларуская гімназія ў Бельску спыніла сваё існаванне, уключылі яе ў састаў Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Т. Касцюшкі. У 1962 годзе школу перанеслі на новае месца. Некаторыя выпускнікі белліцэя, закончыўшы вышэйшыя навучальныя ўстановы, на працу вярнуліся ў сваю школу.

Я вельмі цешуся, што маю магчымасць вучыцца роднай мове. Блізкія майму сэрцу словы Віктара Шведа:

*Калі нехта скажа: ёсць мовы мілейшыя,*
*Яму адказаць я заўсёды гатоў:*
*Найпрыгажэйшая, найдаражэйшая*
*Мова зямлі роднай, мова бацькоў.*

**Анна АЎСЯНЮК,**
**I „е" кл. II Агульнаадукацыйнага ліцэя ім. Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім**

# Музыка і вырабы з вясковага панадворка




*На сцэне „Ліцьвіны” з Беларусі.*

Да традыцыі Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе належыць арганізаванне фолькавых сустрэч „З вясковага панадворка”. У гэтым годзе праводзіліся яны 2 і 3 кастрычніка, а суарганізатарам мерапрыемства выступілі калектыў „Чарамшына” і Studio Dobrego Dźwięku з Беластока.

У першай сустрэчы, якая адбылася ў 1996 годзе, удзельнічалі чатыры калектывы: „Аркестр св. Мікалая” з Любліна, „Чарамшына” з Чаромхі і дзве вакальныя групы: з Вулькі-Тэрахоўскай і вёскі Чаромхі. Паколькі супольны канцэрт прайшоў паспяхова, калектыў „Чарамшына” вырашыў працягваць ініцыятыву.

У наступных гадах да чаромхаўскага мерапрыемства далучыліся айчынныя і замежныя калектывы. Сёлета ў Чаромху прыехалі: „Jahiar Group” і „Аркестр св. Мікалая” з Любліна, „Sutaras” з Літвы, „Ciercheń” з Новага Тарга, „Ліцьвіны” з Беларусі і „Nie po drodze” з Сувалкаў.

На пляцы каля ГОК купцы расставілі ларкі з усялякімі цацкамі, пражанай кукурузай і цукровай ватай. Бровар з Акоціма, апрача свайго фірменнага напою, прапагандаваў праграму „Wizji TV”. Зала ГОК была акуратна падрыхтавана. На сцэне віднеўся ідылічны краявід: ветраны млын пад бярозамі і калёсы з драбінкамі, загружаныя снапамі збожжа. Вабіла вока выстаўка народнай творчасці, на якой экспанаваліся вырабы з саломы Ніны Ефімюк з Чаромхі, народныя вышыўкі Аліны Бароны з Сакоў і Лідзіі Андрасюк з Чаромхі, лазовыя кошыкі Вольгі Храмінскай з Пагулянкі і драўляныя вырабы Марыі і Яраслава Смактуновічаў з Белавежы.

Мерапрыемства пачалося ў 14 гадзін з дэманстрацыі народнай творчасці. Грыша Васілюк з Чаромхі паказваў публіцы свае дрэўцы, якія на пачаканні выконваў з галінак бярозы (шыкарна выглядаюць на мэблях).

— Рамяства гэтага навучыўся я ад знаёмых сястры будучы ў Палічне, — кажа Грыша. — Спадабаліся мне вырабы з бярэзіны. Адзін вечар прыглядаўся як гэта робяць палічукі. На другі дзень сам паспрабаваў. Атрымалася. Вось і пачаў займацца рукадзеллем з таго часу, як пайшоў на „куранёўку”, з 1994 года. А вырабы прадаю пераважна прыватным фірмам.

Побач майго суразмоўцы сядзіць Людміла Саевіч, якая вяжа кручком узорыстую сурвэтку. Яе суседка выплятае саламяную пасудзіну.

— У шасцідзесятых гадах, — гаворыць Ніна Ефімюк, — за саламяныя карабкі можна было дом пабудаваць і сельскагаспадарчыя машыны купіць. „Цэпэлія” іх нам экспартавала. Прыбытак з таго нядрэнны быў...

А непадалёк дзвярэй Збігнеў Пяхоўскі з Чарнай Всі Касцельнай, што ў гміне Чорная-Беластоцкая, выррабляе гліняныя гаршчочкі, свісцёлікі, мініяцюркі. Зацікаўленне працай народных майстроў вялікае.

Непрыкметна прайшлі больш за дзве з паловай гадзіны з рукадзельнікамі. Час перанесціся ў канцэртную залу. І тут здарылася непрадбачанае — прапаў ток. Публіка і госці пачалі нервавацца, але неўзабаве манцёры ўсё выправілі.

На сцэну першым выйшаў калектыў „Jahiar Group”, які выканаў музыку народаў Усходу: Турцыі, Персіі, Арменіі, а ў знак прызнання для „Чарамшыны” праспяваў іхнюю песню „Чом ты нэ прышоў”.

Асаблівы жанр музыкі і такія ж музычныя інструменты паказаў літоўскі калектыў „Sutaras”. У яго выкананні можна было пачуць творы ад сярэдневякоўя па сённяшні час. Рэпертуар „Sutarasa” складалі песні, якія мужыкі спявалі пры піве, на сенажацях ці ў дарозе да нарачонай. Публіцы найбольш спадабаліся вясёлыя мелодыі, якія гучалі на вясковых танцавальных вечарынах. Чарамшукі ўпершыню пазнаёміліся з такімі інструментамі як: канга, арфа, рогі, дуда ды ўсялякага віду дудкі ды пішчалкі.

Суботні канцэрт завяршыла выступленне „Аркестра св. Мікалая” з Любліна, які паказаў фальклор гураляў з Паланінаў.

Другі дзень мерапрыемства першым пачаў калектыў „Ciercheń” з Новага Тарга (Ciercheń — так называецца зорка, якая спадарожнічае цыганскім табарам). Разнаколерныя шыкарныя касцюмы і прывабная, чароўная музыка, песні і танцы ромаў заваявалі публіку. Найбольш прыпалі да сэрца гледачоў песні: „Hej, sokoły”, „Тройка” і „Орэ-орэ-сабата” — народны гімн ромаў. У падарунку за цудоўны канцэрт калектыў атрымаў букет кветак.

Беларускі фальклор прэзентаваў калектыў „Ліцьвіны” пад кіраўніцтвам Уладзіміра Хрыстовіча. Мінскія артысты з'яўляюцца лаўрэатамі тэлевізійнага фестывалю „Залатыя ключы”. Калектыў паспяхова выступаў з канцэртамі некалькі разоў у Польшчы і Славеніі. У Чаромсе ён заспяваў і нам добра вядомыя песні: „За туманом нычого нэ выдно”, „Каліна-маліна”, „Ой, у лузе” ці „Ой, у полі озерэчко”.

Калектыў „Nie po drodze” з Сувалкаў, які карыстаецца багатым інструментарыем, паказаў шатландскі фальклор. На канец выступіла мясцовая „Чарамшына”. Кожны нумар праграмы чаромхаўская публіка ўспрымала несціханымі воплескамі. Так было да апошняй хвіліны завяршальнага канцэрта.

IV Фолькавыя сустрэчы „З вясковага панадворка” ў Чаромсе завяршыліся паспяхова. Немалая ў гэтым заслуга арганізатараў, беластоцкіх сродкаў масавай інфармацыі і спонсараў, перш за ўсё Міністэрства культуры і мастацтва, Павятовага старасты ў Гайнаўцы, Маршалкоўскай установы ў Беластоку, а таксама іншых арганізацыяў. Кожны калектыў у падарунку ад „Чарамшыны” атрымаў саламяны званочак, які заклікае да наступнай сустрэчы.

**Уладзімір СІДАРУК**

*Фота Тамары КЕРДАЛЕВІЧ*



*Ніна Ефімюк прэзентуе вырабы з саломы.*

# Пушчанскі блакнот



*Віктар Кабац на фоне сваіх прац.*

У Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы адкрылася выстаўка гайнаўскага мастака Віктара Кабаца „Пушчанскі блакнот”. Можна на ёй убачыць хуткі аўтэнтычны чорна-белы рысунак, выканаы ў пушчы і больш вытанчаную графіку. На пастэльных і алейных працах — працяг тэм адлюстраваных у рысунках, найчасцей бываюць гэта партрэты дрэў, сасны і дуба. Найважнейшыя ў іх, па словах мастака, колер і клімат лесу.

На другім паверсе бібліятэкі размешчаных было больш за дваццаць прац. Сярод іх знаходзяцца карціны дваццацігадовай даўнасці і новыя, намаляваныя зусім нядаўна. У найстарэйшых працах лес паказаны рэалістычна, а апошнія карціны — гэта каларыстычныя абстрактныя кампазіцыі. Нельга на іх заўважыць канкрэтнае дрэва ці нейкі прадмет, бо паказана на іх толькі ігра колераў.

— У Гайнаўцы наглядаецца аўтэнтычная цікавасць да мастацтва і было гэта відаць, калі арганізавалі мы выстаўкі ў Беларускім музеі. Зараз музей перастаў ладзіць экспазіцыі. Атрымаў я прапанову ад Гарадской бібліятэкі, дзе ў Малой галерэі працы паказваюцца на калідоры, — кажа Віктар Кабац. — Усе мае працы, якія прэзентуюцца на выстаўцы, спалучае тэма пушчы, таму і называецца яна „Пушчанскі блакнот”. Люблю працаваць над пастэльнымі карцінамі, бо можна пачаць выконваць іх у лесе, а пасля канчаць у майстэрні. У алейных працах больш філасофіі і паглыбленага аналізу і найчасцей пераходжу я ў іх да абстрактнасці. Аднак тэма пушчы, над якой працую здаўна і тут мае сваю працягласць. Пушча так багатая, што можна маляваць яе ўсё жыццё.

Майстэрня Віктара Кабаца знаходзіцца ў белліцэі. Убачыў я там працы, прысвечаныя Беларусі.

— У наступным годзе думаю арганізаваць у Беларускім музеі вялікую выстаўку, больш за трыццаць прац, прысвечаных ахвярам Курапатаў. Рысункі, графіку і алейныя працы рыхтую здаўна. Яны яшчэ не паказваліся. Гэта другая, побач назірання за лесам, тэма, над якой я працую.

**Аляксей МАРОЗ**

*Фота аўтара*

# Краявід з крыжамі

*„Wiara w Krzyż Chrystusowy połączyła wiernych Kościoła i Cerkwi, którzy nie znając słowa EKUMENIA swój trud, ból i radość złożyli wraz z kwiatami pod krzyżem".*

**Анджэй Струміла**

Прыдарожны крыж з расстайных дарог... Абвеяны ветрам, абліты сонцам і дажджамі... Стаіць ён адзінокі, журботны, пахілены. Чые рукі стварылі яго? Каго абараняў ён ад заразы, войнаў, усялякіх няшчасцяў? І ці абараніў?..



А мо паставілі яго з удзячнасці за выратаванне тутэйшых жыхароў ад хваробы, ці ў смутку па страце бліжняга. Каб і выпадковы прахожы мог прыпыніцца і памаліцца за яго душу...

Маўчаць крыжы, нямыя сведкі мінулых падзей. Сябры і абаронцы нашых продкаў. Адны з іх толькі пахіліліся, а іншыя ўжо паваліліся, але людзі ставяць замест іх новыя. Ставяць іх у смутку і радасці. Крыж гэта сімвал, які суправаджае хрысціяніна ад моманту нараджэння аж да смерці. Людзі вераць, што ён абароніць іх і супакоіць.

У новым альбоме здымкаў вядомага майстра мастацкай фатаграфіі Віктара Волкава пад загалоўкам „Крыж"* прадстаўлены крыж як неад'емная часцінка краявіду паўночна-ўсходняй Польшчы, нашага краявіду. Ён — свой для бацяна, які нерухома стаіць на драўляным крыжы, калі Волкаў яго фатаграфуе. Яму тут спакойна, ды і навакольле з вышыні выглядае хораша. А тут, не зважаючы на нікога, пасецца ля крыжа конь. На другім здымку авечкі абступілі крыж. Усе яны тут — у сябе. І крыж — у сябе. А вось старэнькая каплічка, вырэзбленая проста ў дрэве, з распяццем і акенцам, бадай, для птушак. А тут крыж высечаны проста ў камені, прыдарожным валуне. Час патрапіць няшчадна знішчыць нават камень, і нечая клапатлівая рука старанна замазала вышчэрбленыя дзіркі цэментам...

Колькі трэба прайсці і праехаць, каб знайсці, а пасля сфатаграфаваць кожны запаўшы ў душу аўтара крыж! Яны стаяць усюды: ускрай дарогі, на ўзгорку, у полі, ля вёскі, за стадоламі, у жыце, сярод бяроз, у валунах, а нават у вадзе, залітыя ў час веснавога разліву.

Найбольш у альбоме драўляных крыжоў. Часамі яны бываюць вельмі прыгожыя, з цікавай разьбой, незвычайнымі арнаментамі ды іншымі аздобамі. А часам яны зроблены з дрэва, так як яно расце, з сукамі, нешліфаванага, толькі постаць Ісуса Хрыста рэзбленая.

Аўтар не піша, адкуль гэтыя крыжы. Відаць, гэта для яго няважна. Істотны для яго сам крыж, факт яго існавання. Ён хоча перадаць людзям яго хараства, умельства майстроў, што стваралі яго, але перш за ўсё ён імкнецца паказаць душу народа.

А ёсць і крыжы, зробленыя з металу, з рознымі кавальскімі аздобамі. Або з металу і каменя. І нават драўляныя з металічнымі аздобамі. А вось крыж з металу, умураваны ў звычайны валун у полі. А вунь з валуна вырэзблены ні то крыж, ні то чалавечая постаць.

Аўтара найбольш цікавяць самотныя, адзінокія крыжы. І сапраўды, яны найманцней перадаюць увесь боль і роспач чалавечага лёсу. Але зрэдку ў альбоме здараюцца здымкі цэлага лесу крыжоў (напрыклад, з Грабаркі), часамі побач стаяць праваслаўны і каталіцкі крыжы, у сімбіёзе, так, як, зрэшты, выглядае і жыццё тутэйшых жыхароў. А во крыж Еўфрасінні Полацкай, а тут крыжы, памаляваныя блакітам. Волкаву аднолькава дарагі кожны крыж — ці каталіцкі ён, ці праваслаўны, хаця маці выхавала яго па-каталіцку.



Тэкст мастака, паэта і эсэіста Анджэя Струміллы (яго ж і графічная апрацоўка) ва ўступе да альбома з'яўляецца асобным раздзелам гэтага нязвыклага выдання. Аказваецца, у даліне Арарата ў Арменіі знойдзены крыжы дзесяцітысячагадовай даўнасці! Керамічныя вырабы са знакам крыжа выконваліся на чатыры тысячы гадоў перад нараджэннем Хрыстовым на тэрыторыі Румыніі і былой Чэхаславакіі. У Егіпце ўжо ў III тысячагоддзі перад нараджэннем Хрыста сустракаўся рэгулярны лацінскі крыж, а ў Кітаі знайшлі знак крыжа сярод варажбітных знакаў на касцях з XIV стагоддзя да новай эры. Быў у гісторыі чалавецтва час, калі крыж выконваў функцыю прылады мукі і ганебнай смерці, якой каралі нізка народжаных злачынцаў (у старажытных скіфаў, у Асірыі, Персіі, Месапатаміі і ў дзяржаве яўрэяў). У часы Аляксандра Македонскага гэты звычай перанеслі на Захад.



У трох першых стагоддзях хрысціянства крыж не быў дамінуючым знакам новай веры. У захаваным раннехрысціянскім жывапісе катакомбаў, у рэльефах саркафагаў сустракаюцца: голуб, рыба, аліўная ці пальмавая галінка, ослік, паўлін, якар, баранчык і грэцкая манаграма Хрыстос: Chi-Rho. Трыумфальны паход крыжа пачынаецца толькі пры Канстанціне Вялікім, ад 355 года.

Вяртаючыся да крыжоў, зарэгістраваных Віктарам Волкавым, магутных і новых, старэнькіх і патрэсканых, а нават паваліўшыхся, забытых і прыбраных ад нізу да верху кветкамі і каляровымі істужкамі, паказаных удзень і ўначы, пры ўзыходзе сонца і ў імгле, сярод соснаў, лугоў і ля хат, калі ўсё цвіце і ў зімовы дзень, калі ўсё навокал і нават кветкі на крыжы пакрыліся інеем, можна з упэўненасцю сказаць, што ў альбоме не хапае толькі аднаго: нотаў. Але і так, аглядаючы ўсё гэта хараства, так і чуеш чарадзейскую музыку.

Альбом „Крыж" быў падараваны аўтарамі папу рымскаму Яну Паўлу II у часе яго прабывання на Падляшшы ў чэрвені 1999 года.

**Ада Чачуга**

*Album „Krzyż" — W. Wołkow, A. Strumiłło, wyd. Benkowski, Białystok 1999.

# Вярнуць належны гонар

— Цяпер свяча не загарыць на магіле нашага любімага святара, асветніка і грамадскага дзеяча, святой памяці Парфенія Базылеўскага, але калі знойдзем яго костачкі, вернем яму належны гонар, на які заслужыў у мінулым, — кажа айцец Яўгеній Падгаецкі, родам з Дубін. — Можа і нашчадкі Базылеўскіх знойдуцца, то будуць мець дзе пахіліць галаву і памаліцца.

16 кастрычніка 1999 года мужчыны з Брацтва праваслаўнай моладзі з Гайнаўкі разам са святаром Яўгеніем Падгаецкім перакопвалі зямлю за агароджаю капліцы, якая знаходзіцца побач вёскі Дубіны, шукаючы астанкаў Юліяніі і Парфенія Базылеўскіх. Хаця пошукі не закончыліся поспехам, бо знойдзены былі толькі кавалкі бляхі, праўдападобна з купала капліцы, аднак айцец Яўгеній не здаўся і будзе шукаць далей.

У 1940 годзе савецкія салдаты выкінулі косці а. Парфенія і матушкі Юліяніі з грабніцы, якая знаходзілася ў цагляной капліцы і закапалі за агароджаю. Жыхары вёскі Дубіны расказвалі, што часткова разбурана была і капліца. Салдаты скінулі і закапалі побач святара купал, павыносілі іконы, а капліцу перарабілі на склад амуніцыі. Вяскоўцы гаварылі, што пры такой знявазе храма не абышлося без людскіх ахвяраў. Ікона „Пакроў Божай Маці", якую бавец сцягваў басанож, скалечыла яму шыю. Ад невялікай раны пайшло заражэнне крыві і салдат памёр. Пазней савецкі жаўнер, які ахоўваў склад боепрыпасаў у капліцы, застрэліў свайго сябра.

Звесткі пра а. Парфенія Базылеўскага, якія захаваліся ў дубінскіх парафіяльных дакументах і віленскім архіве сабраў а. Яўгеній Падгаецкі. На жаль, месца нараджэння і паходжання святара застаецца невядомым. У 1843 годзе са званнем студэнта I разрада закончыў ён Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, у 1844 годзе, рукапаложаны ў святары, стаў вікарным свайго цесця ў Дубінах, а пасля настаяцелем. Служыў там ажно да 1885 года з двухгадовым перапынкам (1851-1853), калі быў настаяцелем прыхадскога вучылішча.

— Святар Парфеній Базылеўскі вядомы быў не толькі ў Дубінах, але ва ўсёй акрузе, як асветнік і грамадскі дзеяч. У 1854 годзе заснаваў ён у Дубінах сваю школу, у якой разам з матушкай і нанятым за свае грошы настаўнікам вучылі дзяцей з навакольля бясплатна. Калі ў 1861 годзе яго школа пераўтварылася ў Народнае сельскае вучылішча, стаў яго дырэктарам і дзесяць гадоў вучыў бясплатна. Яго асветніцкая дзейнасць у Дубінах тым важнейшая, што дубінская школа была першай у акрузе, — расказвае айцец Яўгеній.

З парафіяльных дубінскіх дакументаў можна даведацца, што айцец Парфеній Базылеўскі займаў важныя дзяржаўныя пасады. Быў дэпутатам следчых спраў, а пасля дэпутатам у віленскай акрузе па справах вучобы. Гэтая праца не перашкаджала яго арганізацыйнай і духоўнай дзейнасці ў сваёй парафіі. Кіраваў будовай Успенскай царквы, якая і цяпер стаіць у Дубінах, царквы ў Крыначцы, у якой і сёння моляцца вернікі з суседніх парафіяў, пабудаваў парафіяльны дом. Памёр у 1907 годзе на 86 годзе жыцця.

— Для нашых прыхаджан быў аўтарытэтам, хаця б таму, што на ўзор віленскі стварыў два царкоўныя хоры, бо раней спявалі ў нашых цэрквах толькі псаломшчыкі, — працягвае айцец Яўгеній.

Пасля вайны прыхаджане аднавілі капліцу звонку, зрабілі новы купал, а ў 1965 годзе перанеслі з рамантаванай у Крыначцы царквы частку іканастаса з іконамі Збавіцеля і Божай Маці і аднавілі яе ўсярэдзіне. Аднак за агароджай засталіся яшчэ астанкі дубінскіх дабрадзеяў — святара і матушкі. Толькі ў 1990 годзе настаяцель прыхода айцец Васілій Шклярук разам з айцом Яўгеніем Падгаецкім выступілі ў мітраполію за дазволам на перахаванне астанкаў у капліцу і па блаславенню святой памяці мітрапаліта Васілія і мітрапаліта Савы, з дазволам свецкіх улад распачаліся першыя пошукі.

— Калі костачку ці дзве знойдзем, буду вельмі рады, бо можа будзе ўлажыць іх у труну і памясціць на сваім месцы ў капліцы, якая і пабудавана была для святара Парфенія Базылеўскага. А толькі ж дабра зрабіўшы для нашай мясцовасці і ваколіцы напэўна заслужыў на гэта.

**Аляксей Мароз**

**У Сусветны тыдзень звяроў**

# Сабакі і чалавекі

Кажуць, найбольш чалавечых пачуццяў шукай у сабакі. І то не ў пародзістага, панскага, а звычайнага бурыка з дзеда-прадзеда. А найбольш верны і чулы будзе цюцька з прытулку, ці то шчанюк, ці прыбіты жыццём



*Мая сяброўка — Гарэшка (наступніца Кіці).*

і людзьмі бадзяга. Сярод іх трапляюцца і сапраўдныя былыя арыстакраты — таксы, аўчаркі нямецкія і колі, ротвайлеры. Якіх выкінулі з машыны ці прывязалі, на смерць, да дрэва. Або не дабілі калом па галаве. Ды хоць іх і білі, усё сярод наведваючых прытулак выглядаюць свайго пана-гаспадара. Свайго ката.

— Не бярыце шчанят з беластоцкага прытулку! — перасцерагае ветэрынар з паліклінікі па вул. Вясёлай 18 у Беластоку д-р Януш Гулько. Не таму, што ён іх не шкадуе. На 100 працэнтаў — яны ўсе хворыя. Цуд, калі набытае там шчаня выжыве. Калі не *парвавіроз*, дык сап (*насоўка*). Можа не памагчы прывіўка...

Купіць шчаня ў беластоцкім прытулку па вул. Далістоўскай 2 можна ўжо за 20 злотых. Гэта не заробак для прытулку, але і выдатак невялікі. У Варшаве такі шчанюк, хоць бы з прытулку на Палюху, здаровы, „зашчэплены” ад шасці найгоршых сабачых хвароб, адблошаны, не мае чэрвяў. Называюць там набыццё сабакі не пакупкай, а „адопцыяй”. Мая пляменніца Мартынка марыць „адаптаваць” сабе такога сябра. Прысутнасць звяра ў хаце карысна ўплывае на развіццё, псіхічнае і грамадскае, дзіцяці, вучыць сумленнасці, абявязку... Спачатку звонім.

— Не маем магчымасці зашчапіць шчанят ад хвароб, — кажа кіраўнік прытулку Францішак Петшыкоўскі.

Яшчэ не разумеем, якую рызыку гэта можа прынесці.

Не трэба пытаць пра дарогу ў сабачы *азыль*. Смурод! Не, не сёння, калі ў гэтай установе „адыкрыты дзень”, у Сусветны тыдзень звяроў. Там сёння чысцей, урэшце адгрэблі гаўно, якое ляжала, ледзь прайсці. А тады... Шчанюкі клубуюцца ў адным кутуху. Харошыя. Усе малюпасенькія, некаторыя яшчэ сляпыя, забраныя ад матак. А дзве большыя, прыгожыя тэр'еркі, якім будзе за два месяцы. Адна жвавая, аж свеціцца, другая вяла сядзіць, відаць, ёй вельмі кепска. Мо хворая? Бярэм увішную Кіці. Не ведаем, што яна таксама ўжо „спісаная”. Не ўсыпілі сучачак толькі таму, што такія прыгожыя, маглі б знайсці пакупнікоў. Дарэчы, сярод катлуючыхся шчанюкоў самчыкаў няма. Усе пойдуць у яму, што ж зробіш...

І той віск, крык, ні то гоман, ні то нейкі бітоўны перакліч! Мартына тлумачыць галашэнне жывёл: „Яны крычаць усе «Weź mnie!!! Weź mnie!»” Гэта дзеля яе бярэм няшчасную Кіці і Мартына будзе праз пару дзён асістэнткай лекараў Януша Гулько і Анджэя Ярашэвіча ў клініцы пры ратаванні яе жыцця.

Двухгадзінныя кропельніцы, вітаміны, уколы ад разрываючых ванітаў, ад болю. Жывая кроў. Кіці дома акуратная, стараецца не брудзіць, але што зробіш, калі яе стрававальныя шляхі — адна жывая рана. Але кожны дзень пражыты ёю дае шанц. Трэція суткі, чацвёртыя... У жылках на худзенькіх лапках няма месца, дзе калоць. Добра, што Кіці не абязводзілася...

— Усе шчанюкі з беластоцкага прытулку — гэта трэці сорт сабак у лячэбніцы, — кажа Я. Гулько. — Калі б ім там адразу зрабілі прывіўку ад хвароб, далі сываратку, мелі б шанц выжыць. Парвавіроз не лечаны — смяротны ў ста працэнтах. Лечаны — палова шанцу на выжыццё. Шчаня мае менш шанцаў, чым дарослы сабака. А яшчэ горшы — сап, які найчасцей атакуе, паралізуе нервовую сістэму....

Кіці танна дасталася. За яе далі толькі 20 злотых. За столькі ж можна даць ёй укол на лягчэйшую смерць. Мартынка жахаецца: „Як вы ўвогуле можаце меркаваць, што Кіці можна **ўжо** ўспыпіць?! Як можна даць камусьці ўкол на смерць?! Толькі таму, што гэта не чалавек?! Чалавеку, вось, нельга. А яна пакутуе страшэнна, і слова сказаць не можа. Маўчыць, сцяўшы зубы. Гэта несправядліва!!!” Мартынцы дзесяць гадоў. Для яе незразумелая смерць кожнае істоты. Хто даў нам права рашаць, пытае, ці даць камусь укол і ўсмярціць яго, ці разважаць, ці далей ратаваць? Але нават не вельмі ў тое яшчэ верыцца... І тыя грошы, грошы... Ужо ў дзесяць раз больш выдалі мы на лекаванне, чым сама Кіці каштавала.

Чацвёртыя суткі. Учора была выразная паправа. Радаслаў і Мартынка цешацца: „Будзе жыць наш сабачка!” Затрымаўся крывацёк, тэмпература стабільная. А на другі дзень, памятны зацьменнем сонца, Кіці траціць прытомнасць. Сап. Кропельніцы, вітаміны. Тры апошнія візіты. Як добра, што жывем тры хвіліны ад клінікі... А пад поўнач Кіці закрычала. Як чалавек. Умірала.

Калі б не забралі яе з прытулку, здохла б там тыдзень раней. Без імя, без слёз дзяцей, што яе выбралі на сябра. Без роздумаў дзесяцігадовай дзяўчынкі пра права на жыццё і справядлівасць. І маёй, матчынай свядомасці, што не прыгожыя словы вучаць, а дзеянні, і што ў такія моманты дзеці найбольш разумеюць, што значаць словы быць *панам стварэння*, кім даручыў быць чалавеку Бог, і што тое, што рухае сусветам — гэта любоў да ўсяго жывога...

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Паўсюдны страх перад нябожчыкамі

**Сонца ўжо даўно зайшло. Вяртаемся дамоў трохі пазней, чым заўсёды. Калі набліжаемся да мясцовага могільніка, сэрца пачынае калаціцца. Ноччу, у глыбокай цішыні, чутны кожны шорхат. Кроў пульсуе мацней, а мы паскараем крок, каб хутчэй дайсці дадому.**

Калі ахоплівае нас неспакой, тады праўдападобна мы знаходзімся пад уплывам распаўсюджанага ва ўсім свеце павер'я, што душы памерлых могуць дапамагаць або перашкаджаць жывым. Такая перакананасць у многіх краінах свету спарадзіла забабонныя традыцыі. Напрыклад, звычай узводзіць у месцы чыёйсьці трагічнай смерці домік з крыжам, у якім гараць свечкі, да якога ўскладаецца кветкі, каб такім чынам аказаць увагу да душы памерлага і дапамагчы ёй.

Ходзяць таксама расказы аб духах, якія з'яўляюцца апоўначы і палохаюць людзей з прычыны нейкіх здарэнняў у мінулым.

У іншых народаў вераць, што душы продкаў знаходзяцца ў небе і безупынна наглядаюць за жывымі членамі сваіх сем'яў. Упэўнены яны таксама ў тым, што душы продкаў надзеленыя звышнатуральнай сілай, дзякуючы якой могуць падтрымоўваць і ахоўваць сваіх родных на зямлі або падвяргаць іх пакаранню.

Ва ўяўленні некаторых людзей, пры крыжах, якія стаяць на граніцах вёсак і на ростанях, можна ноччу сустрэць душы пакутнікаў, які зводзяць адзінокіх вандроўнікаў.

Аднак ёсць яшчэ і народная прыказка: „У страху вочы вялікія”.

**Міхал Мінцэвіч**

# Як будзе далей?

Такое пытанне задаюць часта сяляне Нараўчанскай гміны, калі ідзе гутарка аб пашырэнні Белавежскага парку.

Рашучая большасць гаспадароў пушчанскіх вёсак ацяпляе свае дамы драўнінай. Яны купляюць у надлясніцтве апал, пілуюць, колюць, сякуць, складаюць дровы ў кастры. За лета драўніна высыхае і дасканала гарыць зімой у печах.

Ужо некалькі добрых гадоў як надлясніцтва не прадае грабіны і дубіны.

Людзі не разумеюць гэткага дзіўнага распараджэння. Упадзе ў лесе ад старасці дуб ці граб, а яго купіць нельга. Нават галлё гэтых дрэў не прадаецца. Дзіўная логіка: „Сам не гам і каму не дам”. Каму карысць ад таго, што дрэва гніе, марнуецца? Хіба толькі лясным чарвякам і насякомым?

Мясцовы народ супраць пашырэння парку таму, што парк і так аграмадны, а шмат людзей страціць працу.

Ахова прыроды — справа важная, але адным чыстым паветрам людзі жыць не могуць. Пра чалавека таксама трэба падумаць.

Экалагі з Міністэрства асяроддзя павінны пайсці на кампраміс. Гэта значыць пакінуць на ўскраінах пушчы тры існуючыя надлясніцтвы, якія будуць весці разумную лясную гаспадарку.

**Мікалай Варанецкі**

# Няздзейсненая ідэя прафесара Шульца




*Магіла праф. Ежы Шульца ў Паўлінаве.*

У 1970-х гадах прафесар хірургіі Ежы Шульц з Варшавы, ураджэнец Паўлінава, прапанаваў стварыць ландшафтны парк на рацэ Нурцы, у састаў якога ўваходзіла б заходняя частка Арлянскай гміны. Пра гэтую ідэю арлянскім радным напомніў Мікалай Кадлубоўскі на XI сесіі Рады гміны. „Але мы тады, і я асабіста таксама, паставіліся да гэтага абыякава, — сказаў прамоўца. — Аднак сёння справа даспела да таго, каб ажыццяўленнем справы заняцца сур'ёзна”.

Мікалай Кадлубоўскі выконвае цяпер абавязкі павятовага раднага. Прызабытую ідэю прафесара Шульца прапагандуе ён цяпер на форуме Рады павета ў Бельску-Падляшскім.

— Я на верасенёўскай сесіі выступіў перад павятовымі дэпутатамі з прапановай стварыць на граніцы Кляшчэлеўскай, Боцькаўскай і Арлянскай гмін ландшафтны парк. Войт з Боцькаў падтрымаў мяне.

Павятовы радны Мікалай Кадлубоўскі выказваецца за стварэнне ў Орлі купальнага басейна, паколькі ніводная гміна ў павеце не мае такой чыстай рэчкі як Арлянка. Падтрымаць ініцыятыву заклікаў ён мясцовых радных.

— Усю дакументацыю праекта ландшафтнага праку прафесар Шульц перадаў сваёй дачцэ, біёлагу па адукацыі, — паведаміў радным старшыня Рады гміны Яўген Зінкевіч, жыхар Маскоўцаў, распаложаных побач Паўлінава. — Калі трэба, магу наладзіць кантакт з роднымі прафесара, якія штогод прыязджаюць у Паўлінава на канікулы.

Прафесар Ежы Шульц — асоба вядомая ва ўсёй Польшчы. Памяць яго трэба вярнуць на радзіме — у Арлянскай гміне. Аднак большасць радных слухала выступленні з нейкім недаверам, а адзін з удзельнікаў сесіі прыраўнаў ідэю стварэння ландшафтнага парку з колішнімі рэзервацыямі індзейцаў у Амерыцы.

* * *

На занядбаным могільніку ў Паўлінаве стаіць напаўразбураная родавая капліца Шульцаў з Паўлінава. Побач — магіла прафесара Ежы Шульца з верасня 1996 г. з бярозавым праваслаўным крыжам. Ажыццяўленне праекта стварэння ландшафтнага парку на Нурцы было б ушанаваннем памяці вядомага хірурга, які ўзлюбіў роднае Паўлінава і застаўся верным Арлянскай зямлі да апошніх дзён свайго жыцця.

**Міхал Мінцэвіч**

# Гісторыя навыварат

Калісьці мне здавалася, што толькі камуністы і ім падобныя фальшуюць у жывыя вочы гісторыю і здарэнні глабальнага значэння апісваюць на свой капыл, так, каб воўк быў сыты і авечка цэлая. Але, на жаль, цяперашнія дэмакраты таксама фальшуюць гісторыю, што агідна яе чытаць. У мінулым годзе на сваёй пошце пачаў я купляць польскі гістарычны часопіс пра апошнюю вайну. Гэты тыднёвік з каляровымі малюнкамі аб падзеях другой сусветнай вайны называецца „Gazety Wojenne”. У ім перадрукі некаторых колішніх ваенных газет і разважанні цяперашніх нашых гісторыкаў як гэта вайна адбывалася ў іх вачах і меркаваннях. Божа! — што яны вычаўпаюць на старонках — гэта жах! Дзякуючы гэтаму часопісу, я даведаўся пра „сапраўдны” ход вайны і што найлепшымі ваякамі былі там палякі, амерыканцы, англічане, французы, а таксама немцы і японцы, хаця апошнія былі ворагамі. Камандны састаў, які лічаць геніяльным, таксама быў у іх. І зброя найлепшая выпускалася іхнімі заводамі і фабрыкамі. А савецкія войскі, камандны састаў і зброя — на шэрым апошнім месцы. Пра рускіх пішуць дурноту і адзін абман, каб падлізацца тым, хто рускіх за людзей не лічыць. Але ж нават чалавек малаадукаваны, але не шавініст, ведае ў нас, што найбольшы цяжар гэтай крывавай вайны лёг на галаву і плечы Савецкага Саюза. Хай там гэты першы год — 1941 — і палова другога, 1942 года былі цяжкія і непасяховыя для саветаў (так склалася па віне самога Сталіна) але пазней, асабліва пасля Сталінградскай бітвы, перавага перайшла на бок савецкіх войск і спыніць гэтае не было сілы, і нават без дапамогі заходніх саюзнікаў Расія перамагла б гітлераўскую махіну. Ясна, што вайна прадаўжалася б намнога больш і большыя былі б ахвяры. Напэўна варта падзякаваць амерыканцам і англічанам за дапамогу, якую яны аказалі Расіі, але баронячы рускіх яны ў першую чаргу абаранялі сябе. А калі саюзнікі адкрылі другі фронт на Захадзе? Улетку 1944 года, калі рускія гналі немцаў ажно пыл курэў! А адкрылі той фронт баронячы сваіх палітычных інтарэсаў, каб бальшавікі не захапілі ўсю Еўропу пасля перамогі над ворагам; і так было б! А савецкія палкаводцы былі намнога лепшыя ў сваім мастацтве ад славутых польскіх, амерыканскіх і англійскіх афіцэраў; даказала гэта жывая гісторыя. І калі б не рускія, дык палякі пайшлі б следам за жыдамі, а мы былі б нямецкімі вечнымі парабкамі. Часопіс „Gazety Wojenne” ўжо да нас не прыходзіць і праўду кажучы, што хлусня мае кароткія ногі. Адна бяда, што фальшывай гісторыі навучаюць у школе і дзеці вераць гэтаму. Нашай дэмакратыі не спадабалася пастава Беларусі, Украіны і Расіі; дзяржавы гэтыя даказалі, што 17 верасня 1939 года было не нападзенне і акупацыя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, а вызваленне гэтых зямель. На гэту тэму можна многа рознага гаварыць, а мая выснова наступная: палякі сілаю захапілі ў 1920 годзе незаконны для іх землі ад бальшавікоў — і як адзін у нас адукаваны і разумны чалавек, Павел Дземяновіч, гаварыў: „Рыжскім нажом раскроілі Беларусь, гэта для нас сорам і ганьба”. І 17 верасня 1939 года бальшавікі сілаю адабралі сваё ад палякаў. Нашым дзецям адкрылі яны школы і то на высокім узроўні, бо чатыры класы міжваеннай польскай школы вучылі толькі чытаць і лічыць. Палякі павінны быць удзячны Сталіну, і мы таксама, што ён пасля вайны Беласточчыну аддаў ім.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Сесія бельскіх павятовых радных

14 верасня 1999 г. адбылася XIV сесія Рады Бельскага павета. Павятовыя дэпутаты падчас пасяджэння вырашылі некалькі спраў. Напрыклад, Рада выказала згоду на заключэнне пагаднення з Упраўай горада Беластока наконт абслугі камісіі па інваліднасці. Адначасна радныя лічаць, што ў будучым годзе ў Бельску — маючы на ўвазе інтарэс пажылых і хворых людзей — неабходна стварыць такую камісію для жыхароў Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў.

Радныя адтэрмінавалі разгляд інфармацыі аб становішчы ў галіне натуральнага асяроддзя і добраўпарадкавання адходаў на тэрыторыі павета з прычыны несумленнай падрыхтоўкі матэрыялаў. Напрыклад, пісалася ў іх, што ў Арлянскай гміне ёсць 9 км каналізацыйнай сеткі і працуе мясны завод, калі ў сапраўднасці ні масарні, ні каналізацыі ў Орлі няма.

Многа ўвагі на сесіі было адведзена становішчу сялян. Найбольшы гаспадарчы заняпад наглядаецца ў Арлянскай, Бельскай і ўсходняй частцы Боцькаўскай гмін, у якіх пераважная большасць насельніцтва ўтрымоўваецца ўжо з пенсій. Радны Мікалай Кадлубоўскі з Рыгораўцаў прапанаваў, каб на сутыку гэтых гмін стварыць ландшафтны парк, таму што ў гэтым месцы былі калісьці зялёныя тарфянікі, якія з цягам часу падвярглісся разбурэнню. Прапанове супрацівіўся Аляксей Бужынскі з Бельска, які запіранне людзей у скансэнах лічыць недаразуменнем. Аднак М. Кадлубоўскага падтрымалі яшчэ двое радных.

У далейшай частцы сесіі радныя адобрылі дамову аб датацыі з Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя з прызначэннем яе на мадэрнізацыю кацельняў. Пасяджэнне закончылася выездам радных у Вышкі з мэтай азнаямлення на месцы з праблемамі гэтай гміны. Такім чынам павятовыя радныя закончылі цыкл гаспадарскіх візітаў у гмінах Бельскага павета.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прыснíўся мне дзіўны сон. Развальваецца старая хата. А мо гэта было нейкае вялікае памяшканне. Не памятаю, ці была там страха. Мы былі там спачатку з мамай, пасля яна кудысьці пайшла. Не ведаю, ці гэта была мая хата, але ў мяне было такое ўражанне, што я магла яе ўзяць сабе.

Раптам сцены, адна за другой, пачалі валіцца. Як домік з карт. Я ўцякла. Разглядаюся, ці няма там кагосьці, перш за ўсё шукаю майго малога. Не, яго тут няма.

А праз пару дзён ізноў мне сніцца дом. Сцен не памятаю, але памятаю страху. Яна была з нейкага матэрыялу: ні то брызент, ні то іншая тканіна. У многіх месцах гэты каляровы, з малюнкамі нібы брызент парваны, як бы працёрты. У мяне ёсць папяровы пластыр. Я пачынаю заклейваць ім дзіркі, спалучаць лопнуўшы матэрыял.

Два сны, крыху падобныя, хоць сніліся не ў адну ноч. Што могуць яны абазначаць?

**МІРА**

Міра! Ты ўжо, бадай, і сама адгадала, што сон твой нядобры. Вынікае з яго, што нешта ў тваім жыцці пахіснецца.

Хата з першага сну, здаецца, была без страхі. Нішто яе не прыкрывала надзейна, не хавала жыхароў ад дажджу і спякоты. А пасля і сцены гэтай хаты, яе падпора, пачалі, адна за другой, валіцца, як домік з карт. Табе стала страшна. Ты шукаеш свайго малога, ці хаця ён не застаўся ў гэтым доме, які развальваецца на вачах. Праўда, дом гэты не твой, але ж ты маеш свядомасць, што ён можа быць твой у любы момант. Дык і справы гэтага дома могуць датычыць цябе ці тваёй сям’і.

Дом з другога сну запамятаўся табе перш за ўсё дзякуючы яго страсе. Зроблена яна была з нейкага матэрыялу ці брызенту, хаця каляровага і з малюнкамі, то ў многіх месцах працёртага, палопанага. Ты яго пачынаеш склейваць папяровым пластырам, але невядома, ці надоўга яго хопіць, ці будзе гэта трывалы рамонт. Значыць, ізноў у тваім доме (чытай: жыцці) нешта „пратрэцца”.

**АСТРОН**

# Незвычайны кватарант

Падышла восень, наступілі халодныя дажджавыя дні. Птушкі адляцелі ў цёплыя краіны. Яшчэ ў панядзелак, 11 кастрычніка, убачыў я апошніх жураўлёў.

— Хочаш убачыць бусла? — усміхаючыся запытаў мяне Міхась Б.

— Якога бусла? — пытаю.

— Звычайнага, які жабак на сенажацях лапае ды дзяцей падкідае, — прабаваў жартаваць калега, але зараз сур’ёзна заявіў: — У Сцяпана Бішчука знаходзіцца бусел. Мо пазвоніш недзе, каб птушку на зіму забралі, бо цяжка будзе пенсіянеру пракарміць бусла. Ён жа толькі жабамі харчуецца.

Вяртаючыся дамоў я заглянуў на панадворак Сцяпана Бішчука, а ўбачыўшы яго запытаў:

— Дзе твой кватарант?

— Пра бусла пытаеш, — усміхаючыся кідае ў мой бок селянін. — Вунь, спіць, каля кухні.

Сапраўды так і было. Бусел стаяў на адной назе, звесіўшы галаву ўніз.

— Як ён да цябе трапіў? — пытаю аднавяскоўца.

— Кабыла пасвілася каля рэчкі. Я адвячоркам пайшоў забраць яе дамоў. Бачу, бусел побач ходзіць. Ды не ўцякае. Калі я накіраваўся дамоў, бачу, і ён за мною крочыць. Так мы апынуліся на сядзібе. А зараз і не пазбавішся. Непрадбачаны кватарант...

— І чым ты яго корміш?

— Хлеба не хоча, толькі бараніну, і гэта маладую. Старой не есць. Ужо больш за тры кілаграмы мяса пайшло, — заяўляе гаспадар. — А хто мне за гэта зверне?

Нібыта смешна. Невялічкая дробязь — камусьці падумаецца. А чалавеку сапраўды праблема. Птушку не хоча пакінуць самую сабе, і грошай на мяса выкідаць шкада.

Я абяцаў уладкаваць справу. Спадзяюся, што супольна вырашым праблему і кузаўскі бусел на зіму знойдзе свайго апекуна.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Будзе больш тэлефонаў

Яшчэ да канца гэтага года жыхары Нараўчанскай гміны атрымаюць 400 новых тэлефонаў. Устанаўліваюць іх работнікі Аддзялення сувязі ў Гайнаўцы. Будзе больш тэлефонаў між іншым у вёсцы Масева. Зараз леснікі згадзіліся на пракладку новага тэлефоннага кабеля цераз частку Белавежскай пушчы.

Варта адзначыць, што ў некаторых вёсках Нараўчанскай гміны тэлефоны маюць амаль усе, хто толькі гэтага жадаў. Найбольш абанентаў у Нараўцы, Старым Ляўкове, Новым Ляўкове, Міклашэве, Лешуках, Заблоччыне, Ахрымах, Гушчэвіне, Плянце і ў Семяноўцы. Яшчэ жадаюць яго мець у сябе дома некаторыя жыхары Плянты, Масева і Леснай.

**(гай)**



## Паведамленне Радыё Рацыя

Управа Радыё Рацыя аб’яўляе набор кандыдатаў у журналісты ў Беластоцкую студыю Радыё Рацыя. Кандыдаты павінны выдатна валодаць беларускай мовай, мець адпаведную дыкцыю, выявіць свае журналісцкія здольнасці. Набор кандыдатаў будзе праводзіцца на конкурснай аснове. Тэрмін падачы заяў — 10 лістапада 1999 года.

Заяву і аўтабіяграфію даслаць трэба па адрасе: 15-424 Białystok, ul. Lipowa 25/3.

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 2000 r. upływa 5 grudnia 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 19,50 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 39,45; pocztą lotniczą Europa — 48,05; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 65,05. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,60 zł, a kwartalnie — 33,80 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Галерэя „Ніўкі"

*«Еўрасаюз, як ты мне мілы...»*

Фота Міхала Мінцэвіча

# Пра футбол

Апошнімі тыднямі ў польскіх сродках масавай інфармацыі царыў футбол, а дакладней кажучы эмоцыі, звязаныя з апошнім адборным для фіналаў чэмпіянату Еўропы матчам польскай зборнай. Любімцы польскіх балельшчыкаў не апраўдалі вялікіх спадзяванняў, якімі тых жа балельшчыкаў фаршыравалі згаданыя СМІ. Пасля завяршальнага пройгрышу шведам тыя ж самыя СМІ, якія яшчэ некалькі дзён раней трубілі ў нямыя галасы пра ўдзел сваіх арлоў у фіналах, сталі пісаць пра іх разгром, а любімы нашымі беластачанамі трэнер Януш Вуйцік быў вызвалены загадчыкамі польскага футболу ад займаемай пасады. Ні журналісты, большасць якіх мабыць у футбол гуляла толькі на экранах тэлевізараў, ні тым больш варшаўскія футбольныя вярхі неяк не хацелі заўважыць, што іх зборная закончыла адборачныя гульні на трэцім месцы ў групе, набраўшы столькі ж пунктаў, што і зборная Англіі, якая ў рэйтынгах спецыялістаў каціруецца намнога вышэй за нашых арлоў.

І вось на мой правінцыянальны розум і здаецца, што за паказаны вынік, значыць за роўную з англічанамі колькасць пунктаў, варшаўскія футбольныя стырнавыя павінны быць удзячны трэнеру Вуйціку. Бо ж калі глянуць на тых нашых змагароў, якім трэба было забіваць больш галоў у вароты сапернікаў, чым прапускаць у свае, дык трэба толькі дзівавацца, якім цудам трэнеру ўдалося змабілізаваць іх да прыстойнага высілку. У нашым кутку свету вартасць футбаліста правяраецца ў найлепшых еўрапейскіх клубах: колькі там „арлоў" выходзіць у асноўным саставе? А колькі шведаў, англічан ці балгараў? Таварыская гульня з Іспаніяй не пакінула хіба ніякіх сумненняў наконт магутнасці нашага футбольнага „мацарства", хаця расійскія суддзі і стараліся як маглі дапамагчы сваім братам-славянам не залічваючы паловы правільна забітых іспанцамі галоў.

У нашай краіне ўцарылася перакананне, што калі выказваюцца нейкія страсці, то павінны яны абавязкова ажыццявіцца. На выпадак спаборніцтва з англічанамі тыя страсці распальвалі падзеі дваццацішасцігадовай даўнасці, калі польскім футбалістам **удалося** адстараніць англічан ад фіналаў чэмпіянату свету. І хаця з тае пары заступнікі радзімы сучаснага футбола неаднойчы ўражальна даказвалі нашым цудавернікам сваё вяршэнства, усё ж такі нашаму найяснейшаму балельшчыцтву здаецца, што менавіта яго любімцы лунаюць у футбольных хмарах, а іншых засмоктвае дрыгва.

Распісаўся я пра страсці польскіх балельшчыкаў, а вось пра такія ж праблемы беларускіх не згадваю, хаця і зборная Беларусі змагалася ў адборных гульнях за чэмпіёнскае званне. І апынулася яна ў найніжэйшым радочку групавай табліцы, хаця двойчы сыграла нярозыгрышна з традыцыйна даволі высока каціраванай зборнай Італіі, а беларускім футболам загадвае сам прэзідэнт Лукашэнка. Аднак я не ведаю, ці ў беларускіх футбольных хмарах разрадзілася нейкая бура з тае простае прычыны, што ў сваім тэлевізары магу глядзець нейкія заснежаныя контуры, якія з Беларускага тэлебачання фільтруе ў кабельную беластоцкую сетку фірма ELPOS, а замест нармальнага голасу магу пачуць толькі такі шум, якім некалі глушылі ў нас перадачы „Вольнай Еўропы". І не ведаю, ці там за вынік расплаціўся трэнер зборнай, як у нас Януш Вуйцік, ці мо вярхоўны футбольны загадчык, як у нас Мар'ян Дзюровіч...

**Адам Маньяк**



Фрашкі пра нашых

## *Сябры*

Не давалі спаць Суседзям сябры ад кілішка.
Што зарэзалі, сабралі — усё з'елі без лішка.
А яшчэ, як ноччу спалі, абабралі хату.
Тое, што найдаражэйша, дасталася свату.
Падказалі паліцыянтам, званком ананімным,
Што яны, якраз Суседзі, элемент злачынны.
Калі тыя, на павестку, паехалі ў гміну,
Узяліся за ўсю рэшту, звялі да руіны.
Так, браткі па вёсках, ведайце, з кім піці,
Бо сябры, нібы ад сэрца, аскубуць да ніці!
А яшчэ і адмыслова спаскудзяць *апінію*,
Бо гэта **вас** зробяць зладзеямі ў гміне.

**Вандал Арлянскі**

# *Двухлітарная крыжаванка*

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | *2* | 2 | | 3 *7* | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 *4* | |
| | 10 | | | *8* | *9* | |
| 11 *5* | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 *1* | ■ | *3* |
| 16 *6* | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. горад на поўначы Балгарыі, 3. Мануэль, мексіканскі мастак і архітэктар (1757—1816), 5. паўднёвая паўхмызняковая расліна, якой пупышкі ўжываюцца як прыправа, 7. бацька, 9. не шарыят, 10. Кастусь, кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі, 11. гульня, 12. бельгійскае мястэчка на паўночным усходзе Брабанта, 14. становішча зубоў пры стуленых сківіцах, 16. горад у Палесціне між Іерусалімам і Назарэтам, 17. расійскі горад на ўсходзе Ленінградскай губерні.

**Вертыкальна:** 1. паласатая і клятчастая ўкраінская тканіна і чатырохвугольны адрэз яе, які носіцца ў якасці спадніцы, 2. Сіман, славенскі літаратар (1835—69), 3. тулава чалавека, 4. спіць, а служба ідзе, 6. распаўсюджвальнік, 8. праліў і архіпелаг у групе астравоў Рукю, 9. адходы, 11. вялікая паўднёваамерыканская яшчарка, 13. псеўданім Іосіфа Джугашвілі, 14. Балеслаў, польскі пісьменнік (1847—1912), 15. горад на паўночным захадзе Чэхіі.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 38 нумара**

**Гарызантальна:** града, амплітуда, сіфон, амега, Ака, раствор, ягаднік, акт, аванс, асцюк, рэкардыст, арэна.

**Вертыкальна:** палітык, „Гапон", ашука, амфітэатр, апендыцыт, скаба, аміяк, ара, аят, квартэт, секта, Арыка.

Рашэнне: **Мікола Бушко**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

— Чаму ксяндзы не даюць разводаў?

— Бо хто б ім тады зайздросціў?

* * *

На дзвярах майстэрні вісіць картачка: „Закрыта. Шавец".

Каля яе вісіць другая: „А я яго зараз прывяду. Жонка шаўца".

* * *

Журналіст гутарыць з рабочым на прадпрыемстве:

— Як доўга вы тут працуеце?

— З таго часу, калі пасля двух выгавараў прыгразілі мне звальненнем.

* * *

Маладажоны рыхтуюцца да Куцці:

— Ці ты ўжо забіў тую рыбу? — пытае жонка.

— Так: утапіў яе.

* * *

Гутараць дзве замужнія сяброўкі:

— Кожны мужчына хоча ажаніцца з жанчынаю дурнейшаю за яго...

— Пэўна гэта сказаў табе твой муж?

— Не, твой.

* * *

— Каторы муж быў табе лепшы: першы ці другі?

— Калі так добра падумаю, дык даходжу да высновы, што найлепшы будзе трэці.

* * *

— Бачу, — кажа цырульніца кліенту, — што вы настойліва хочаце даведацца, ці ў мяне сёння свабодны вечар. Спытайце пра гэта майго мужа, які зараз будзе вас брыць.